**Ліхтаровіч Георгій Леанардавіч**
**"Агульны сшытак". Вершы. -- ООО "Лекцыя". 2002 год. -- 304с.**
**ISBN 985-6305-27-6**
**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(Беі)6-5**
**Л 65**
**Карэктар Більдзюкевіч Галіна Лявонаўна**
**Фармат 70х100/32 Тыраж 500 экз.**

**Паслухаема!**

З малечых даўнін богасна стаўлюся да фотавока, якое можа спыніць імгненне. У маладыя гады сябраваў, хаўрусаваў з нашымі таленавітымі фотамагамі. І натуральна, даўно ўразіў мяне сваімі мастацкімі працамі фотамаг Георгій Ліхтаровіч. Ягоныя фотапалотны вылучаліся шчымлівым спалучэннем думкі і мроі, у іх была таямніца. Фотаальбомы майстра чыталіся, мяноўна чыталіся, як паэмы. І не здзівіла мяне, калі апошні фотаальбом быў убурштынены вершамі самога аўтара. Затое кніга паэзіі Георгія Ліхтаровіча, якую ён ад майстраўскае шчодрасці назваў сціпла “Агульны сшытак”, ашаломіла. У “Агульным сшытку” няма агульных словаў. Вобразы, адчуўшы шчырую душу паэта, самі папрасіліся ў вершы, каб захапляць, каб нядзеліцца, каб беларусіцца.

Лепшыя традыцыі наскага верша паэт падмаладжае старавечнымі традыцыямі Усходу. І, пярэчачы Кіплінгу, Георгій Ліхтаровіч паспрабаваў пастарацца, каб сустрэліся Захад і Усход. Цэлы раздзел у кнізе аддадзены трохрадкоўям пад хоку.

Ды прывяду іншы прыклад:

Далягляд – як дзіцяці сляза.
І паветра празрыстае, золкае.
Знерухомела нават каза
З недаедзенай смачнаю зёлкаю!..

Георгій Ліхтаровіч умее бачыць.
Умее й слухаць.

Цішыня…
Хоць сам крычы!

Ды паэт не крычыць, не галёкае. Ён апавядае, узгадвае, прадбачыць па-беларуску. А гэта значыць – утрапёна, дасведчана, як на споведзі.

Паслухаема нечаканага й даўно чаканага паэта. Не толькі вачыма, але і душою.

Душа душу чуцьме!

Народны паэт Беларусі

Рыгор Барадулін

**Агульны сшытак**

Гартаю толькі я, пакуль,
У адзіноце ўласны сшытак.
Лічу – адзіны мой пажытак,
Майго сумлення цяжкі куль.

Нікім не чытаны дасюль,
Збірае ён радкі і словы –
Мае сумненні і высновы…
Шматкроп'і – дзірачкі ад куль.

Я веру шчодрасці зязюль –
Гудуць гультайствы, гульні, гулі…
Ды не гуляю, як ні гнулі,
На нічыю з жыццём, на нуль.

Стырно алоўка – нібы руль,
Але дарма – радок, як вершнік:
Кладуцца на паперу вершы,
Я сам не ведаю адкуль.

Радок – адтуліна Адтуль?
Пягаса выбрык выпадковы?
Магчымы след яго падковы
Я не схаваю, як куркуль,

Бо не з паэтаў-капрызуль,
І ўсё аддам вам на спажытак:
Няхай агульным стане сшытак,
Які прыватным быў датуль…

P.S.
Каб не сурочыць, у бабуль,
Была парада для матулі –
Паказваць немаўляці дулі,
Калі пачулі "гулі-гуль"…

2000

## Мажор

Бярозу жывяць сокам карані…
І ў шэрасці паслязімовай слоты
Ўсім недаверам стомленай істоты
Я адчуваю, як спачатку ўпотай
Вясна нанова пачынае дні!

І ты свой век і час не абміні,
Як недарэчна паступілі готы.
Няма ніколі плёну ад дрымоты.
Для будучага мёду трэба соты.
Вясне насустрач сэрца расхіні!

Над хмарамі заўсёды прамяні –
Гучаць мажорна сонечныя ноты.
Раней адліга, а пасля – грымоты.
Ў вірлівай плыні не губляй стырно ты,
Вясну свайго жыцця не праміні!

1999

## Вясновая прыгода

Апошні снег ручаіцца ў бары,
Імкнецца весняй песняю на ўзлессе.
Сумётаў многа намялося ў лесе
Ці што не тое зладзілі бабры?

Прыблытаўся ручай у гушчары
Да стромістай іглічнай піраміды,
І безнадзейнасць новай Атлантыды
Чакала мурашыны Свет Стары.

Прымоўкла выспа, поўная жуды,
Насуперак вясноваму настрою…
Я нацягаў лаўжоў і сухастою
Ды збудаваў запруду ад вады.

І пазіраў расчулена з гары
На свет, што ўратаваў сваёй рукою.
Раптоўна, паміж ладу і спакою,
Заўважыў я кавалачак кары.

Маленькія мурашкі-бунтары –
Напэўна, ў іх была свая задума –
Сплывалі, каравелаю Калумба,
У Новы Свет, у сінія віры!..

2001

**Адраджэнне**

Здаецца, яшчэ ўчора ля ракі
Хмызы стаялі голыя, як драбы.
І, голле параскінуўшы ўбакі, –
Дубы ў палях, як сушаныя крабы.

Няўтульна-шэры лес глядзеў наўскос,
Не верыў, што пачнуцца птушак спевы.
І, просячы дажджу, стаялі дрэвы,
Галіны ўзняўшы проста да нябёс.

А сёння я расчуліўся да слёз –
Вясна мне прагу да жыцця вярнула,
Як вэлюмам, лістотаю бяроз
Узлесак за ракою агарнула.

1999

**Спакой**

Світанак. Вее ветрык свежасцю.
Пяшчота травеньскай красы.
Яліны прывіднымі вежамі
Стаяць, сівыя ад расы.

Галлё бяроз ярчэе кроплямі,
Асіны ціха шапацяць.
У небе доўгімі шматкроп'ямі
Дадому журавы ляцяць.

Усё наўколле росным позіркам
Глядзіць на веснавы дыван.
Зара прачнулася над возерам,
Над полем коўдраю туман.

Страху нябёс трымаюць кроквамі
Хвоіны бору над вадой...
Стаю – спужаць не ў стане крокамі
Дзівосны ранішні спакой.

1997

**Новая вясна**

Данёс мне ветрыку павеў
Зусім лагодна і вяснова
Ля вёсачкі паблізу Снова
Няўзгоднена-журботны спеў.

І я раптоўна зразумеў –
Вялі шляхі дарог вясковых
Да могілак, не надта новых,
Дзе зноў камусьці час прыспеў.

Каб не валэндацца – прысеў
Ля кволых веснічак сасновых
Як сведка спраў абавязковых…
Бабулькі блыталіся ў словах,
Хусцінкі на сівых галовах
Ярчэлі сярод шэрых дрэў.

Дзячок амаль ужо самлеў –
Тутэйшы, выпечкі мясцовай.
Спяваў незразумелай мовай.
Калі нажлукціцца паспеў?

А побач лежма парахнеў
Калісьці моцны крыж дубовы…
Усё сыходзіць паступова
І асвятляе, як нанова,
Душы затоеныя сховы.
Ці ўсё зрабіў, ці ўсё дапеў?

Адвечны, як Сусвет, сумнеў –
І нечаканая выснова:
Мне дамавіна не гатова!
Яшчэ адну вясну сустрэў.

2000

* * *

На поўдні нашы не растуць бары,
На поўдні месяц дагары рагамі,
На поўдні людзі ходзяць да гары,
Як мы ў бары, за добрымі грыбамі.

* * *

Аблачынка – сонная авечка
Ўлеглася спачыць на сконе дня,
Быццам бы ахвярнае ягня…
І такая ў свеце цішыня,
Што чуваць, як дагарае свечка!

* * *

Штораніцы – сініцы у садку,
Ружовыя ў сунічным бляску сонца,
Гарэзнаю гурмой звіняць бясконца
На яблыні, ля самага аконца.
Іх столькі, што не месяцца ў радку…

**Раніца**

Сыходзіць непрыкметна цемра ўпрочкі,
Спаўзае да ялін
У цёмны бор.
Заплюшчыў золак залатыя вочкі
Гарэзных непасед –
Іскрыстых зор.
Дасвеццe,
Белабрысае дзіцятка,
Расою прамывае вочы дня.
А на патэльні возера –
Аладка,
Жаўцюткая, нібыта цыпляня.

Паласавацца сонцам запрашаю!
Стае на ўсіх –
Сядайце ўкругаля.
Абрус заранкі без канца і краю
Нам засцілае родная зямля.
Світанак спажывайце як сняданак,
Бо нашча цяжкавата працаваць.
Падсілкаваўся –
Можна дзень трываць…
Але ашчадна!
Нам дзівосны ранак
Патрэбна і нашчадкам захаваць!

2001

* * *

Ноч бляднее, як заморак,
Золак запаліў агеньчык,
І сцірае кроплі зорак
Востры, тоненькі сцізорык –
Сонца кволенькі праменьчык

* * *

Там, дзе жыта спыняюцца хвалі,
На ядвабным чароўным абрусе,
Быццам нехта раскідаў каралі –
Прыгажуням крамяным спакусу.

Лесуна заляцанне да дзевак:
Ён тапырыць замшэлае вуха,
Каб гарэзных дзявочых прыпевак
На сунічнай паляне паслухаць.

1996

* * *

Птушка хакнула ўначы,
Можа, аб сваёй нядолі?..
Сціхла рэха ў наваколлі,
Ані ветрыку у полі…
І здалося, што ніколі
Не знайсці мне лепшай долі.
Нават ветаха паўколле –
Вязень сонечнай няволі,
Змёрзлая вавёрка ў коле.
Цішыня…
Хоць сам крычы!

1997

* * *

Навальніца сышла – драбяза,
Але свет атуліўся вясёлкамі,
Зіхаціць над рачулкай лаза,
Як іголкамі, блікамі волкімі.

Далягляд – як дзіцяці сляза.
І паветра празрыстае, золкае.
Знерухомела нават каза
З недаедзенай смачнаю зёлкаю!..

Ліпень 2000

**Родныя зёлкі**

Каля вады туман палёг,
Прачнуўся ранак золкі.
Трымціць ад холаду трыснёг,
Раса ўмывае зёлкі.

Разлапіўся паўздоўж дарог
Трыпутнік паміж бруку
І не пужаецца, дальбог,
Расце – не чуе груку.

Валошкі – неба напамін,
Дзядоўніка суквецце,
Трыліснік, крапіва, палын –
Квітнеюць у сусвеце.

Па густу мне і мурава,
І лугавыя краскі –
Уся, як кажуць, трын-трава
Са старажытнай казкі.

З юнацкіх памятных часоў
І лес мой – каляровы.
Люблю я сціпласць верасоў
І водар чабаровы,

Цнатлівасць ландыша ў бары,
Званочкаў колер звонкі...

І лёс мой, што ні гавары,
Дарылі мне рамонкі.

Утульны, родны муражок –
Усё сваё дазвання.
Ля азярыначкі стажок –
Прытулак для кахання.

Букет для любай я нарву,
Бо ноччу на паляне
Зайцы пакосяць трын-траву
Апоўначы ў тумане.

Я адхілюся трошкі ўбок:
Ці хтосьці зразумее,
Калі наступны мой радок
Аздобіць архідэя?

Царыца кветак, дзіўны цуд,
Ды не расце на полі.
Без парніка, на волі тут
Не выжыве ніколі.

А ў нас заўжды – наперакор
І маразам, і сцюжам –
Расце шыпшына як дакор
Нядужым, кволым ружам.

І зёлкі нашы, і трысцё,
Як кажуць, з першай спробы
Пішчом праціснуцца ў жыццё
Не толькі для аздобы.

Даюць нам травы-землякі
І сена для худобы,
І дзеўкам кветкі на вянкі,
І лекі ад хваробы…

Буяйце ж вы насустрач дню
З пустэчы і чашчобы,
Бо я ў жыцці заўжды цаню
Не постаці –
Асобы!

2000

* * *

Хвоі шумяць вершалінамі звонку.
Ціха сухая іглíца злятае.
Дзяцел дзяўбе сухастоіну звонка –
Хату будуе ці корму шукае?

Ціха пад шатамі бору старога,
Быццам няма набажэнства у храме.
Раптам спынілася нават дарога
Перад пагоркам, парослым крыжамі.

Пазарасло пустазеллем каменне –
Рэшткі падмурка маленькай капліцы.
Толькі – мурашак руплівых тварэнне –
Строміцца ўверх пірамída з іглíцы.

Плямы святла рэжуць позірк замглёны.
І камяні ўжо ад часу ссівелі –
Не прачытаць і не ўспомніць імёны
Тых, каго тут, на пагорку, адпелі.

Могілкі… Толькі даўно не хавалі.
Добра жывецца, што так зажыліся!?
Потым даведаўся – людзі сказалі –
У наваколлі ўсе вёскі звяліся…

1999

* * *

Як знічка, лета мільганула.
Зрабіла восень першы крок.
Напэўна, і яна пачула:
Прайшоў Пятрок – згубіў лісток.

Лісток на сцежцы, як манета,
Ляжыць самотна да пары…
Схавала стомленае лета
Спякоту ў жоўтыя жвіры.

Буслы збіраюцца на поўдзень,
Паволі кружаць над гняздом,
Каб маладосць змагла запомніць
Шляхі вяртання ў родны дом.

## Не спіцца

Ну вось і Спас прайшоў арэхавы...
Туман хусцінкай над вадой,
А неба зоркамі-прарэхамі
Ізноў спрачаецца з імглой.
Гуляе месяц па-над стрэхамі
У жмуркі з хмарнаю градой.
Сабака рэха перабрэхвае,
А за вароты – ні нагой.

Начны ляляк, зануда грэшная,
Заенчыў – дзеліцца бядой.
Парсюк у сне ціхутка крэхкае –
Аб'еўся, пэўна, лебядой.
Мільгнула знічкай думка смешная
І зноў змянілася нудой.
Сабака сціх – не лезе з брэхамі,
І за ваколіцай спакой...

Нарэшце, певень кукарэкае,
А птушкі ў вырай – чарадой.
Ім шчасце – за марамі-рэкамі,
Мне – застаецца выбар свой.
З грахамі ўласнымі, агрэхамі –
Нібыта ў лесе з бараной,
Сяджу паўнюткім недарэкаю...
Сціхае рэха за ракой.
1997

* * *

Адляцела ўпрочкі лета
У буслісі на хвасце.
Клумба з кветкамі раздзета.
Толькі ў бабінага лета
Кусцік – лісцік пры лісце!
Як прывабная кабета,
Зноў цвіце, цвіце, цвіце!..

* * *

Дажджоў самотных чарада:
Імжака, макраццё і слота.
На сэрцы – стылая журбота.
Над лесам – хмарная града...
І прадчуванне адзіноты...
Але змывае ўсе турботы
Дажджоў самотных чарада...

**Агеньчык**

Над Нёманам блукаю ў наваколлі –
У прыцемку па стомленых палях.
З гасцінца збочыў і цяпер ніколі,
Здаецца, не патраплю я на шлях.

Ды раптам бачу: кволенькі праменьчык
Бліснуў і знік, і запаліўся зноў.
Не электрычны, а жывы агеньчык,
Што робіць блізкім доўгі шлях дамоў.

Пад'еду і спытаюся дарогу.
І стомленасць звалілася з павек:
Канец маім блуканням, дзякуй Богу.
Дзе ёсць агеньчык – там і чалавек.

Напэўна, для вячэры стол накрыты:
Паруе бульба,
Пеніць сырадой.
А можа, на кілішак добрай жытняй
Запросяць? –
Застануся на пастой.

На досвітку прачнуся – і ў дарогу,
Папіўшы малачка пад жытні хлеб,
З падзякаю гасціннасці і Богу.
Бог дазваляе,
Робіць – чалавек!

Бліжэй пад'ехаў.
Нешта смутна, цёмна.
Сцяжынка быльнягамі парасла.
Але наперад моўчкі гоніць стома
Да веснічак – зламанага крыла…

І варухнулася ля сэрца скруха.
Усё, няма цяпер хады назад.
Здзічэлы сад раскінуў голле глуха:
Гаротная галеча, заняпад.

Буслянка стылая над цёмнай хатай.
Чароты сходзяць ніцай чарадой
Да сажалкі, што прымаразкам сцята
Люстэркавай празрыстаю слюдой.

Каля хлява ў галлі скалелі колы.
Схіліўся плот пакорна, як жабрак.
Вуллі згнілі – зляцелі ўпрочкі пчолы.
Куды патрапіў сёння я няўзнак?..

Засыпаны іржаваю лістотай,
Асірацелы без снапоў рубель.
Жывой бездапаможнаю істотай
Ля студні пахіліўся журавель.

У студні, паміж хлуду, кволы ветах

Тапельцам ціха скаліцца з вады…
Буслы не абяцаюць новых дзетак.
Спусцелі гнёзды – гэта знак бяды.

Калісьці тут жылі –
Кахалі, дбалі.
Ў калысках калыхалі немаўлят,
Пяшчоты казак дзеткам выдумлялі…
Была патрэба –
Цяжка працавалі:
Зямлю аралі,
Коней зацуглялі,
Палотны ткалі,
З борці мёду бралі,
Цудоўны посуд з гліны выраблялі…
Без напаміну ў жніўні жыта жалі,
Бо на зямлі бацькоўскай шчыравалі.
Свядома лёс уласны будавалі –
Чужынскай не скараліся навале.
На Радаўніцу продкаў шанавалі.
Буслоў чакалі і гасцей віталі.
Бывала, што і чарку выпівалі,
І ўпокат спалі ўсе на сенавале.
А песні…
Што за песні тут спявалі!
Узімку на Каляды,
На Купалле,
Калі вянкі дзявочыя сплывалі
У велічныя нёманскія хвалі…
Надзеі тут ніколі не гублялі!
А зараз –
Безнадзейны заняпад.

Пабіты шыбы, выламаны дзверы.
Кульгавы стол – нагамі дагары…
Жахліва ўсё.
Ніколі не паверу,
Што так зрабіць маглі гаспадары.

Нібыта ў пекла зеўраюць масніцы.
У павуціннай роспачы пакой.
Гарыць агніца ля пустой бажніцы,
Зацепленая прывіднай рукой.

Цяжар на сэрцы і жалобны смутак.
Гаркавы, як пажар, палынны пах.
Сыходзіць у нябыт заможны хутар.
Ад пусткі, як ад чорных лядаў, – жах!

На бэзе шэрань – сівізна на скронях.
Нябожчык ціха спіць.
У вечным сне
Спыніліся руплівыя далоні
Ў дуброве, бы ў дубовай той труне.

Над Нёманам і гоману не чутна.
Не ў сціртах жыта,
Жыта – у снапах.

За што і кім забіты ўтульны хутар?
Губляецца Радзіма па складах.

Так і незбудаваным новым ладам,
Яго ганебным, здрадніцкім загадам
І зайздрасцю жыццё звялося ў дым…
Тады навошта цепліцца лампада
Ў бязладнасці агеньчыкам жывым?

Рукой не ўзняць.
Спіною не падперці.
Не адрадзіць знямелае жытло.
Няўжо і гэткі сорам Божа сцерпіць?!
Гарыць дакорам у начы святло…

1997

**Жнівень**

Прыкаціла лета ў жнівень.
Стала сонейка хіліцца.
Нарадзіў вясёлку лівень,
Каб за борам прытуліцца.
Нібы ліпеньскае неба,
Але ўсё-такі не тое.
І сцяжынку поле хлеба
Атуліла залатое.

Нахілілася калоссе,
Як у часе набажэнства.
Мне здалося, што збылося –
Зноў патрапіў у маленства.

Зерне сонечным бурштынам
У калосся налілося.
Я дзіцячым успамінам
Песню чую!.. Не – здалося…

Фарбы, выспелыя ў леце,
Забярэ ў палітру восень.
Ды мілей за ўсё на свеце –
Цеплыня, што ў сэрцы носім!

**Верасень**

Зазіхацелі росы-жамчугі,
Туманна прачынаецца дасвецце.
Прывабныя рачулак берагі
Пазасталіся ў адляцелым леце.

Зноў сакавіта вабяць хараством
Імхі, схаваўшы першую макрэчу,
І баравік маленечкі, як гном,
Вартуе верасовую пустэчу…

Крамяныя вяргіні пад акном.
Ад павуціння пасівела вецце.
А восень, як ашчадны аканом,
Скідае ў дзень па лісціку-манеце.

Прыйшла часіна выплаціць даўгі,
Ды ўсё марудзіць верасень-скупеча.
Яшчэ суздром зялёныя лугі,
Але буслы злятаюцца на веча.

Спярша кружляюць ціха над гняздом,
Нібыта ў развітальным менуэце.
І адлятаюць, каб вярнуцца ў дом,
Каб не звяліся на радзіме дзеці.

* * *

Разумею,чаму мне трывожна глядзець
На самотнае дрэва,
Што ў восеньскім полі
Ў адзіноце старэе –
Імкненнем да волі
Годна ззяе на сонцы трывожная медзь!

Вабіць вока,
Трымае сабой краявід,
Сцеражэ далягляд мурожныя гоні…
Неаднойчы
Ў пякельным жыццёвым сутонні
Білі ў дрэва маланкі,
Як стрэлы наўскід!

Але дуб не хаваўся за спіны братоў,
Не зламала яго навальніцы навала.
Ён агорае ўсё!
Каб дуброва паўстала –
Будзь спагадлівы, Божа,
Для ўсіх жалудоў!

* * *

Лета скон ці восені пачатак?
Зноў засумавалася прысадам.
Ветрык з дрэў збірае свой падатак
Трошачкі заўчасным лістападам…

* * *

Зноўку восень паціху брыдзе.
Слота. Кроплі на голлі, як слёзы.
І збялелыя раптам бярозы
Ля гасцінца стаяць ў чарадзе.

* * *

У лістападаўскай галечы
Знік нават зорак дробны друз,
Ды сонейка, як бохан з печы,
Лягло на ранішні абрус!

* * *

Сцюдзёны студзень студзіць студні,
Лютуе лютаўскі мароз.
Ледзь чутны звон – як струны лютні
Галінкі змёрзлыя бяроз.



**Зямля**

Рунее даль празрыстаю смугой.
Сцішэлі паплавы, пагоркі, нівы.
Ахопленыя светлаю тугой,
Мінаюць дні ўсё больш і больш імклівa.

Ад Боскай ласкі нам у дар адна
Зямля, як быццам з нейкай дзіўнай казкі.
Ўсё ад Зямлі. Ад хлеба да радна,
Ад моцных каранёў да сціплай краскі.

Яна жыццё і сілы нам дае.
І век, і час, і кожную хвіліну
Нам дорыць казкі, песні нам пяе,
Смуткуе і прымае дамавіну.

Зямля працуе цяжка і здаўна.
Але апошнім часам мне трывожна.
Давай, каб не стамілася яна,
Хадзіць па ёй удзячна, асцярожна.

1999

**Восень**

Лагі сцішэлі і пагоркі,
Прымоўклі птушак галасы.
Вясёлкава глядзяцца зоркі
Ў люстэркі ранішняй расы.

Улетку свет суздром зялёны,
Пафарбаваны, як з вядра,
Але ў жыцця адны законы
Для клёна і ясакара.

Бясконцай велічы прасторы
Празрыстай восеньскай зары
Лістоў расквечваюць узоры
І гасяць зорак ліхтары.

Хавае фарбы ліст стамлёны,
А ўвосень, з самага нутра,
Выходзяць колеры з палону –
Ад золата да серабра.

Дваровы краявід зашклёны,
Ды адчуваю і праз шкло –
Спакой пакою дораць клёны,
Утульна-цёплае святло.

Змяняе манахром дрымотны
Барвяны вернісаж двара –
Мастачкі-восені палотны
Па грунце лета-маляра.

А сціплую нябёсаў просінь
Малюе верасень-мастак.
Паштоўку-ліст прыслала восень
Стракатую, як андарак.

І кожны год я апантаны:
Як прыйдзе любая пара,
Чакаю, нібы закаханы,
Час ліставея-паштара.

Я не атрымліваў, мяркую,
За ўсё жыццё такіх лістоў.
Чытаю прозу трапяткую,
Карункі таямнічых слоў.

Зачараваны і ўлюбёны
У вершы першадрукара,
На памяць я вучу пісьмёны
Таленавітага пяра.

Шапоча рыфмамі асіна
Сваім збянтэжаным лістом.
На вершы добрая часіна –
Збірай кашом на цэлы том!

І для бярозы не будзённа!

Паміж старога серабра
Заблыталася лісце… клёна –
Жарт лістапада-плеткара.

А вось і модніцы-каліны:
Ужо ў каралях, як на баль,
Змянілі звыклыя саціны
На свой расквечаны паркаль.

Лісты паскідвалі таполі,
І толькі ў дуба-змагара
Убор святлее ў наваколлі
Арнатам, рызай святара.

Лісты – старонкі-першадрукі.
Гравюры, буквіцы, радкі
Даверліва кладуцца ў рукі –
Стаўляй у кніжкі напрасткі.

На жаль, кароткі век друкарні –
Ляцяць лісты календара.
Багацце восеньскай кнігарні
Загіне ў полымі кастра.

Не застаецца таямніцы,
Якую варта захаваць.
Лісты спадаюць, як… спадніцы,
Без сораму ў агонь ляцяць.

Дакурыць ветрык-недавука
Старонкі клёна-буквара.
Дажджоў марудная дакука
Змарнуе справу друкара.

І хутка шэрань травы схіліць –
Усё імкнецца да зямлі.
Ціхутка ў моры-небасхіле
Сплывуць хмурынкі-караблі.

Але заўжды цярпліва зносім
Знікненне дзіўнага шатра.
Была бы болдзінскаю восень
Для мастака, для песняра!

1999

## Грыбныя сцежкі

Чароўны водар восеньскага лесу
І лістапад – цудоўная пара.
Паміж бяроз туманная завеса
Заблыталася ў дыме ад кастра.

Каля цяпельца ўтульна, цёпла, суха.
Вуголлі – быццам коцікі вярбы.
Не верыцца, што хутка завіруха,
Бо сёння надта добрыя грыбы.

Паўнюткі кошык, хоць і не маленькі.
Гудуць прыемна ногі ад хады.
Наступным разам пойдзем па апенькі,
Пакуль не наступілі халады.

Ёсць, праўда, і надзея на зялёнкі:
Калі марозам сцяты паплавы
І шэрань упрыгожвае сасонкі –
Яны не кажуць з моху галавы…

І толькі ўзімку кошыкі павесім,
Ажно да самых веснавых страчкоў.
Тады сяброў запросім і абвесцім,
Што новы год грыбны для нас прыйшоў!

1998

* * *

Цяпло не вернецца назад.
Мы не чакаем і не просім.
Усё радзей мы бачым просінь:
Нябёсы – стомлены агат
На адыходзе лета ў восень.
Што зробіш? – Першы лістапад.
І пыркі зорачак-зярнят
Як з пераспелага калосся,
Нібыта свята пачалося, –
Зноў сыпанулі ў далягляд.
І варта стомленых прысад
Стройнейшай стала…
Мо, здалося?
Ды загучала двухгалоссе –
Сапраўдны зорны лістапад!

2000

**Мінор**

На цвінтары раскіданай царквы,
Сярод былля братоўкі-агняцвету,
Стуліўся крыж – гаротны вартавы –
Прысуд маўклівы бабінаму лету.

Раптоўна цудам ацалелы звон
Ад ветру загучаў ці так, з самоты,
І гук лунае ў небе наўздагон
Апошняй хвалі восеньскай лістоты.

Ён адлятае, гіне спакваля –
Фінал мінорны стомленае ноты.
Стаміліся і неба, і зямля –
Зімы чакаюць, снегу і дрымоты…

1999

**Чарот**

Восень – жыцця паварот:
Свет атуляе знямога,
Млее ў сутонні дарога…
Выйсця не мае другога –
Дрэмле чуллівы чарот.

Як успамінам пяшчот,
Светла ірдзеюць бярозы.
Высахлі росныя слёзы.
Дзень абяцае марозны
Змёрзлай хмурыначкі спод.

Туліцца к лесу чарот
У безнадзейнай галечы,
Быццам прыход халадэчы
Чуе і ціснецца к печы
Рыжы знясілены кот.

Нізкі птушыных чарод
Шлях свой даверылі зорам.
Ціха згасае за борам
Сонца закатнага сорам –
Раніца наадварот.

Чахне ля рэчкі чарот
Ніца, гаротна, убога.
Што ты ўсё шэпчаш, нябога?

Не даляціць да нікога
Твой спавядальны зварот!

Валкага ветаха ўсход
Зноў адбірае надзею.
Ветрык увечар цішэе,
І дашаптаць не паспее
Важнае нешта чарот.

Богам забыты прыход,
Свет, на які я малюся,
Край, што завуць Беларуссю, –
Можна, к табе прытулюся,
Быццам гаротны чарот?..

Ліпень 2000

**Ля каміна**

Абрыдлы дождж і мокры снег.
Ну дзе зіма, дзе завіруха?
Пад дахам, дзякуй богу, суха
І на камін злавацца – грэх.

Усё сваё з сабой нашу:
Жыцця разлікі і разлукі
Цягну, як кажуць, без прынукі,
Сваё сумленне варашу…

Ледзь-ледзь трымаецца – ліпіць
Цяпельца вогнішча ў каміне
І, як на споведзі-ўспаміне,
Мяне ў мінулае імчыць.

Усё былое растрасу –
Нібыта сена па адрыне.
Хай бог Сварожыч не адрыне…
А каб не знудзіўся ў каміне,
Яму ахвяру прынясу.

Сухіх паленцаў паднясу,
Смалістых трэсачак падкіну
І з аксамітнага карміну
Агню раздзьмую паласу.

І задаволена вурчыць,

І разгараецца патрошку.
Сагрэе, спадзяюся, кошку –
Вось-вось, здаецца, замурчыць.

Цяплее ў хаце, а затым
І думкі блытаюцца ў стоме.
Бязважка адлятае ў комін
Туга ўспамінаў, быццам дым.

Жыцця і лёсу каламуць
Ужо здаецца неістотнай…
Скаруся ўтульнасці дрымотнай,
Каб разам з кошкаю заснуць.

1999

* * *

Белы свет задуманы прывольна.
Тут, у гэтым багатворным цудзе,
Можна жыць асобна і супольна,
Толькі мы заблыталіся ў хлудзе.

Перамог жыццё стандарт падвойны,
І прыгожы свет канае ў брудзе:
Спрэчкі, сваркі, гвалт, рабункі-войны…
Так было і так заўсёды будзе?..

Недалужна ў сэрцы, незагойна,
І душа – крынічкаю ў запрудзе.

Мо зямля і лепшага дастойна?
Але волю не даюць на блюдзе.
Трэба жыць і думаць самастойна:
Бог спрыяе, свет ствараюць – Людзі!

2000

* * *

***Яўгену Казюлю***

У нябыт адлятаюць гады.
Птушкі ў вырай, а я – застаюся!
Толькі ў доме бацькоўскім нап'юся
Я чысцюткай крынічнай вады.

Ад зімовай маўклівай жуды
Каля матчынай печкі стулюся.
Не стамлюся я і не скаруся
Ў час, калі за акном халады.

А калі пацяплее, тады
Я за справы рупліва бяруся.
Кволым парасткам ўвесну праб'юся
Я з занесенай снегам грады.

І не будзе зімовай бяды.
Будзе жыта і хлеб на абрусе.
Я на Бога даўно спадзяюся,
Ды раблю сваю справу заўжды.

1998

* * *

Ўсе гады, што з дзяцінства мінулі,
Ясна чую і бачу я ў снах
Старажытную казку бабулі
Аб цудоўных крылатых канях.

Не схапіць летуценні ў далоні…
Прытаміліся коні, відаць,
Праз стагоддзяў сівыя сутонні
Безупынна, нястомна скакаць.

Сёння пасвяцца ціха ў загоне.
Побач – бачна не мне аднаму –
Дзірванамі парослыя гоні…
Дык чаму ж вы стаіце, чаму?

Не! Не вечна вам быць на адгоне,
Ой вы коні, мае скакуны,
Вас пакліча мурожнае ўлонне,
Вольны вецер і квецень вясны.

Над прадоннем маланкамі коні
У абшар, у Сусвет паляцяць.
Нават вецер і той не дагоніць,
А дагоніць – не зможа стрымаць!

1998

**Адзінства**

Празрыстай адзіноты краявід –
Ён быў да нас і будзе ён заўсёды:
Блакіт нябёс і пушчы аксаміт,
Буслы, вясёлкі, зорак карагоды.

Збянтэжаныя постаці бяроз
Саромяцца, як дзеўкі на Купалле.
Пяе салоўка – спеваў віртуоз,
Дапамагае рэха запявале…

Крыштальны бляск зіхоткіх, ясных рос
І восеньская стомленая слота,
І лес, дзе ў самы лютаўскі мароз
Звініць дубоў каляная лістота…

Хай недзе горы, сакуры цвітуць
І вабяць вока акіянаў хвалі,
Але мяне дамоў заўжды завуць
Ільноў блакіт, засмужаныя далі.

Пяюць і суахілі, і санскрыт.
Закон жыцця на ўсёй Зямлі агульны:
Стварае мову родны краявід –
Адзіны ў свеце, любы, мілы, ўтульны!

1999

**Пачатак**

Цягне холадам, як з рэчкі.
Змрочна тут і ў ясны дзень,
Ды агеньчык вечнай свечкі
Сцяў сваім ланцэтам цень.

Зноў у келлі – ён,
Каторы,
Як палонны,
Дзень у дзень
Перапісвае паўторы.
Да Скарыны шлях не скоры –
Не заззяў яшчэ прамень…

Чалавек рыхтуе пёры.
Задуменнае чало…
У паўзмроку зноў скрыпторый,
Каб наўкол было святло.

Тут прайшла жыцця палова –
Той дарогі з тлену ў тло…
Сёння ўсё пісаць нанова –
Памаліўся,
Каб пайшло.

Паўтарылі вусны Слова,
Каб нічога не забыць…
А папера, як абнова,

Так прывабліва ляжыць,
Быццам грэе стол дубовы…
І свавольная рука
Прыадкрыла сэрца сховы:
Да людзей ляцець гатовы
Першыя Святыя Словы
Вершаванага радка!

2001



**Полацкі санет**

Квітнее буквіц родны першацвет,
Нягледзячы на холад і прынуку.
Радкі як шлях – накшталт старога бруку –
Між забабонаў, прымхаў і прыкмет.

Мы ў гэты каламутна-творчы свет
Прыйшлі адтуль, з вытокаў кнігадруку.
Святло нам даў і добрую навуку
Скарынаў старадаўні запавет.

Набатам б’е і ў наш няўцямны час
Наказ, нібыта пісаны для нас:

Каб шанавалі мы свае вуллі
І ведалі святыя радаводы…
Асвета – соль бацькоўскае зямлі,
Падмурак нашай будучай свабоды!

2001

* * *

Кожны дзень ахінаюцца зноў
На заходзе чырвонай парфірай
І гучаць старажытнаю лірай
Таямніцы сівых курганоў.

Ад спрадвечных прыроды дароў
Нам у спадчыну тут засталося
Так пражыць, каб жыццё не звялося,
Родны род і радзінная кроў.

Лёс паэтаў і лёс дзівакоў –
Несці словам праменьчыкі свету –
Вось адна палымяная мэта!

Ды не любіць фартуна паэта...
І ў пракрустава ложа санета
Не змяшчаецца веліч вякоў.

1998

**Лёс лесу**

Ахвярны лёс старых бароў:
Калі жывіца нам патрэбна –
Лязо паблясквае срэбна –
Мы ў дрэва адбіраем кроў.

Чаго не зробіць чалавек,
Каб сыравінай пажывіцца!?
Цячэ бурштынная жывіца
За годам год, за векам век...

Злачынства?
Божа барані!
Прырода створана старанна,
І гоіцца пацíху рана...
Ды ёсць у тым адна загана –
Слабее дрэва й карані.

Так, недарэчнасць ёсць адна.
Калі ты розумам багаты,
Заўсёды на будоўлю хаты
Ідзе смалістая сасна.

Заўважыў чалавек здавён,
Што калі дрэва не падсочыць –
І шашаль хату не паточыць.
Бярвенне будзе, быццам звон!

І я, нарэшце, зразумеў,
Чаму чужынскія чынушы
Лязом указным рэжуць душы:
Каб не было смалістых дрэў!

І дрэвы кволыя ў камлі…
Я ўласнай скурай адчуваю
Амаль нячутны енк адчаю
Маёй падсочанай зямлі.

Кругом пяюць: “Народ здароў!..”
Ужо і слоў мне не хапае.
Па кроплях мова выцякае –
Жывіца Бацькаўшчыны,
Кроў!

**Правапіс**

Як гаворыцца, так і чуецца,
А як чуецца – так і пішацца.
Не напісана – не друкуецца,
Так і гутарка хутка сцішыцца.

Што рабіці мне, расказаць каму,
Дзе ж тут роднае зразумеецца?
Калі ўсё сваё па-чужынскаму,
За траву ніжэй ніцма сцелецца.

Што не сказана – не пачуецца,
Бо нячутнае і не слухаюць.
Сам сабою лёс не збудуецца.
Сэрца поўніцца жалем-скрухаю…

Збажына нідзе не калышацца,
Што пасеена – ўсё марнуецца,
Бо як чуецца, так і пішацца,
А не пішацца і не чуецца!

1997

* * *

Ля сіняй бухты, дзе прыбой
Дагэтуль пеніцца журбой,
Паэт, перад уласным сходам,
Ціхутка размаўляў з сабой.
Ды атрымалася – з народам…

А іншы – клікаў як трубой,
Стварыў баладу, гімн і оду:
Каб пакарылі мы прыроду,
Каб не марудзілі з сяўбой…
Ды не знайшоў у вечнасць броду.

Пакінь славесны свой разбой,
Дай рады лепш свайму гароду,
Што ў вёсцы кінуты табой,
Бо пад ”Зуброўку”, “Зверабой”
Гурок патрэбны і народу.

Народ не трэба весці ў бой.
Як зразумееў, адкуль ты родам
І стаў, нарэшце, сам сабой,
Тады канец тваім нягодам –
Пачуты будзеш і народам!

2001

**Спазненне**

Бясснежны снежань – у душы раскол.
Прырода адракаецца ад веры.
Галее лес, дасюль няўтульна-шэры,
Як парусьнік, што трапіў на прыкол.

Жыцця адзіны пробліск – угары,
Між веццяў, рэштак парусьнага спрэнту –
Ліхтарыкамі яркага пігменту
Разгублена ірдзеюць снегіры.

Маячаць мачтаў голыя калы.
Не чутна птушак акампанементу.
Бы каланада без антаблементу,
Самотна стынуць сумныя ствалы.

Спіць лес і сніць віхуры тых часоў,
Калі растраціў веснавую рэнту,
Разлістаўвеіў спадчыну дашчэнту,
Падобную да слуцкіх паясоў…

Ну паспрабуй у шэрасці ствары –
Я не кажу пра верш – радок не шэры.
Чысцюткі на стале лісток паперы,
І стома кліча ў сонныя віры…

На золку я прачнуўся, а наўкол!..
Як дзіўна: ноч святло мне падарыла,

Усё снягамі белымі пакрыла.
Цямнее толькі мой пісьмовы стол.

І я ў сусвет цнатліва-трапяткі
Таропка расчыняю Музе дзверы,
Але запозна – птушкі, людзі, зверы
На цаліку, нібыта на паперы,
Пакінулі дакладныя радкі…

2001

* * *

Восень слухае споведзь бароў
Развітальнай смугою блакіту,
І ўзнікае, нібыта з нябыту,
На шыпшынах ахвярная кроў.

Бродзяць думкі, як статак кароў,
Па жыцці, як па лузе зжаўцелым.
Зноў душа раз'яднаная з целам,
Быццам соткі вясковых двароў.

Таямнічага лёсу радкоў,
Іх імкненне з нябыту да волі
Не спасцігну, здаецца, ніколі…

Пэўна толькі з кавалачкаў болю
Той радок, што дае нам патолю
Праз гады і праз цемру вякоў.

1999

**Волат**

*Васілю Быкаву*

Асілак-дуб адзін у жытнім полі
Ўзвышаецца здалёку ад дуброў.
Абраў ён лёс прарокаў-святароў
І ўжо не здрадзіць жыту аніколі.

Стаіць на варце ў велічнай самоце,
А свінні-злыдні рыюць карані,
І толькі птушкі ў веснавыя дні
Пяюць удзячна велічнай лістоце.

Да дуба я прыходжу ў росным ранку,
Малюся, каб яму хапіла сіл
Трымаць над жытам сіні небасхіл
І першым на сябе прымаць маланку…

Вясна. Зіма яшчэ адна пражыта.
Кувай, зязюля, сонца прамяні –
Ні мужыку, ні дубу не змані,
Бо, каб трывалі вечна карані,
Расці павінна каля дуба жыта!

1999

**Надзённае**

*Алегу Белавусаву*

Каб выжыць, шчэмяцца ў каўчэг
Драпежнікі ды іх ахвяры.
Гудуць разборкі і базары:
Хто першы да катла прыбег?
Ляціць гадоў імклівы снег.
Змяняе час не толькі твары:
Адзін патрапіў у жандары,
А гэны – да варагаў збег.

Мінуў, здаецца, час пацех –
Каму кайданы, каму нары
Падрыхтавалі камунары,
Каб мы зракліся родных стрэх.

За срэбранік ці дробны шлег
Злачынцы, вылюдкі і скнары
Знішчаюць родныя папары,
Нібыта гун ды печанег.

Сыходзіць розум на начлег,
І нараджаюцца пачвары.
Усё ў жыцці заўжды да пары –
У сэнсе альфаў і амег.

А гэты верш – не дзеля ўцех,

Не назапасіць ён даляры.
Якія, браце, ганарары?
Як той казаў, курам на смех!

Прыемна проста між калег
Вітаць людзей адзінай мары,
Якіх да сёння лёсу ўдары
Не раскалолі, як арэх.

Яны грунтоўна, не наспех,
Не для радочка ў мемуары
Імкнуцца ў вольныя абшары
Да самавызначаных вех.

І сябра мой не пустабрэх.
Не тары-бары-растабары
Вядзе ў сваім утульным бары
І мае Рацыю Алег.

За тое, што наш творчы цэх
Пакуль не ляснуў пад фанфары
І не скурыўся ў кулуары –
І чарку нам кульнуць не грэх!

2001

**Ад чытача**

Хопіць нас, паэты, ушчуваць,
Што ў наш час паэзія пыліцца,
А чытач – няўцямная дурніца.
Ёсць пытанне – так сабе, драбніца:
А ці ўсё напісана на яць?

Можна навучыцца рыфмаваць,
Можна коскі ставіць навучыцца;
Што квітнее вёска ці сталіца –
Калі ведаць, на каго маліцца, –
Можна процьму вершаў напісаць.

Томікі прыгожыя стаяць –
Доўгая паэзіі паліца...
Калі добра гнецца паясніца –
Можна нават у тэмплан прабіцца.
Выйдзе кніжка, быццам бы капліца:
Твор адпелі – можна пахаваць.

Ну, а як паэтам добрым стаць?
Адкажу, браточкі: таямніца.
Бо натхненне – гэта бліскавіца.
Верш, як сон – аднолькавы не сніцца,
Нават калі ў ложку побач спаць!

Тут, як той казаў, – ні даць, ні ўзяць.
Хопіць з торбай пісанай насіцца.

Калі грымне верш, як навальніца,
Будзе ўсё буяць і каласіцца!..
Ды пакуль грымотаў не чуваць.

2001



**Размова з усенароднаабраным фінінспектарам пра паэзію**

Вярніце сцяг…
Вярніце герб…
Вярніце мову…
Ул. Някляеў

Не выпадае мне маўчаць,
Як Сысу спіцца.
Мне не спыніцца, не прыстаць –
Я ў коле спіца.

Наперадзе мне ўтульна жыць,
Няёмка ззаду.
Каб змог я ўладу палюбіць –
Вярні пасаду!

Я здольны вочы адкрываць
Свайму народу.
Я песню мог бы напісаць
Ці нават оду.

І стаў бы грошы палучаць
Не на дурніцу.
Не трэба творцаў ушчуваць –
Вярні “Крыніцу”!

Прыемна ўладу патрымаць

Хоць за спадніцу.
Змаглі б мы разам пагуляць
Ў хакей, “Зарніцу”.

Магу я выйсце падказаць
І паратунак:
Магу пісаць, магу маўчаць –
Вярні рахунак!

Маланку можаш ты стрымаць
І навальніцу,
Каб даць магчымасць нам убраць
З палёў пшаніцу.

Паэтаў трэба паважаць –
Не перабольшу.
А будзеш доўга разважаць –
Вярнуся ў Польшчу!..

Гучыць рэфрэн, як з ППШ,
Ці, можа, сніцца?
Заўжды паэтава душа
Мне – таямніца.

Ад’ехаць можна рыфмаваць
У Рым ці ў Ніцу.
Ды нешта вершаў не чуваць
Нам праз граніцу!

**Пра родны кут**

Нарог сумуе па раллі,
Паэт – па вёсцы родненькай.
Амаль дашчэнту задзяўблі
Паэзіяй гаротненькай!

Цячэ сляза, займае дух:
Ад глебы адарваныя,
Шкадуюць, трое з кожных двух,
Што гоні не ўзараныя.

Прыцішце голасу імпэт,
Аратары стаpанныя,
Мо скажа пра сябе паэт:
“Араты рэстаранны я?!”

Ды не, ізноў пра родны кут,
Пра вёску – тэма першая.
Як адмысловы род пакут
Чытаю тыя вершы я.

Паэты, соль маёй зямлі,
Дзе ж вашы хаты матчыны?
Уласнаручна аддалі
На лецішчы для дачнікаў?!

А сёння з гарадской страхі
Вы страты нам прарочыце,

Страфой нястрымнай, ад сахі,
Старанна страхі строчыце.

А я з маленства без зямлі,
Бо нарадзіўся ў горадзе.
Не назаляюць мазалі –
Аб чым пісаць?
Во гора дзе!..

Ліпень, 2000



**Вядомаму паэту**

Авансам кожны атрымаў
Жыццё і боскую падобнасць,
А ўсё далейшае ад спраў
Залежыць – вось якая дробнасць.

Адзін зямлю ўвесь час араў
І бульбы накапаў як гразі.
А колькі з гэтай бульбы страў –
Залежыць толькі ад фантазій.

Ляжачага не трэба біць.
Нямогламу патрэбна кульба.
Ды цяжка дранікі рабіць,
Калі драбнюсенькая бульба.

На жаль, не роўна дзеліць Бог.
Ці гэта д'ябальскія штучкі?
Не кожны з нашых творцаў змог
Дажыць з авансу да палучкі!

1999

**Вядомы паэт**

Я пра яго аднойчы чуў,
Што ён у нас паэт вядомы.
З тых самых пор усё хачу
Дайсці да сэнсу ідыёмы.

Паэмы, вершы пачытаў –
І вось, нарэшце, я свядомы:
Заўсёды Кіраўніцтвам Спраў
Паэт вядомы быў…вядомы.

1999

* * *
Добры сябра – шчыра і з імпэтам,
Калі вечар вершаў я завершыў, –
Моцна сціснуў і назваў паэтам,
І не горшым з іх, калі не першым.

Ды анёл мне шэпча: “Злазь з Парнаса!
Ці не хочаш з’есці з макам дулін?
Не спяшай, ахалані да часу,
Пачакай, што скажа Барадулін!?”

2000

**Натхненне**

Векавечная лагода –
Над затокаю дуброва.
Тлум заўсёды перашкода,
Ціша – творчасці аснова.

Чалавек сядзіць з алоўкам,
Нешта піша на паперы.
Сшытка скрэмзана палова
Проста ў пушкінскай манеры.

А вакол вясна буяе,
Перайначваецца ў лета –
І гудзе, і расцвітае,
Цёплым сонейкам сагрэта.

Адгалоскам дабравесту
Краявід паціху млее…
Як цнатлівыя нявесты,
Беласнежныя лілеі…

Хвалі плюхаюцца спеўна,
Воблака плыве мядузай…
Чалавек праехаў, пэўна,
На спатканне з вернай Музай.
Між Прастораю і Часам,
Быццам ён на свеце першы,
З векавечнасцю сам-насам
Піша ён, напэўна, вершы.

Ветрык лашчыцца ў чароце,
Нешта шэпча сам у рыфму…
Тут, у гэтай  адзіноце,
Можна ўбачыць нават німфу.

Чалавек змяняе словы,
Нешта на палях малюе,
Перапісвае нанова,
Сілы й часу не шкадуе.

Ліст са сшытка выдзірае
І камячыць у задуме.
Можа, рыфму падбірае?..
Думкі блытаюцца ў тлуме.

Час ідзе… Нарэшце – кропка.
Чалавек, вянец будовы,
Пацягнуўся нетаропка…
Вось і ўсё!
Данос гатовы.

1999

* * *

Здаецца, што на свеце ўсё нязменна
І летуценна веліч спраў і слоў.
Вандроўнымі чародамі буслоў
За далягляд гады ляцяць... **Але на**
Пакосах – я кажу табе сумленна, –
Нібыта напамін дзіцячых сноў,
Узрушвае чамусьці да асноў
Звычайны водар выспелага сена!

Пакуль хвалюе нешта – ты жывеш,
І ўсё жыццё – адзін бясконцы верш.
Радком жытло ладзьбуецца буслова,
Кранае незбуцвелую душу...
Не згіне ні зямля мая, ні мова,
Пакуль уласны верш не дапішу!

2001

**Партрэт**

*Уладзіміру Карпаву*

Спрабую ўладкаваць усё ў санет –
Даруй мне апантанасць пачаткоўца.
Ты, можа, і вядомы навукоўца,
Ды сам казаў, што перш за ўсё – паэт!

І не стрымаць у спрэчках твой імпэт,
Бо ты не лезеш у кішэнь па слоўца.
Ёсць нешта ад зімовага ядлоўца:
Зірні ў люстэрка – пазнаеш партрэт?

Было спачатку, як вядома, Слова.
Ты з літараў ствараеш Свет нанова...
Але навука ўся – аблога рыфм!

Выснова, ад якой і сам дурэю, –
Нібыта местачковаму габрэю
Ў рахунак запісалі ...лагарыфм!

2000

**Паром роспачы**

*Памяці*
*Уладзіміра Караткевіча*

Час разлівае нам у чаркі,
Як тамада, на небе Бог
І вызначае той парог…
А вось чаму яму не змог
Наліць паўнюткую без сваркі?
Не разумею, далібог!

Адкажа, можа, мне Палессе –
Той рум, дзе вяжуцца ў вякі
Гадоў жывічныя радкі, –
За што Паэту лёс такі,
Нашто забраў яго, Вялесе,
Заўчасна з любае ракі?..

Ізноў вязе паром праз Прыпяць
Журботных думак карагод –
Бязлітасная кара год…
Паэт казаў: з такіх нагод
Абавязкова трэба выпіць
Хаця б… за белы параход!..
І ў памяці вятрыскі дыбяць
Віхрасты вожык валасоў…
Ах, як любіў ён гэты схоў –
Разлівы волі між лясоў,
Прытулак і прыпынак – Прыпяць.
Ён назаўжды цябе знайшоў.

Сюды не трэба мне білета,
Як верны вернік у прыход,
Іду да прыпяцкіх прыгод.
Мо нешта скажа мне чарот?
І для мяне, хоць раз у лета,
Прыпыніць Прыпяць часу ход.

Цвыркун у цемры будзе рыпаць
Ціхутка ў скрыпачку сваю.
А я маўкліва пастаю…
І, дзякуючы салаўю,
Тваім крынічным спевам, Прыпяць,
Хоць трошкі боль свой загаю.

Бо ўсё пячэ агонь сумнення:
Мо захавалі б ад бяды,
Каб не паехаў ён сюды?..
Няма адказу… Праз гады
Цячэ маўкліва, без натхнення
Таемнасць цёмнае вады.

Струменься, боскае стварэнне.
Рыпі, старэча мой, паром,
Ты сябраваў з такім пяром!
Пілі б дасюль натхнення ром,
Калі б не караблекрушэнне
Ля прыпяцкіх дрымотных стром…

Ды месяц успамін узлыбіць
Маладзікова, як дзіця,
Нібыта знак яго быцця…
Жыццё сышло ў нябыт… Хаця…
Пакуль сцякае ў Лету Прыпяць –
Няма Паэту забыцця!

Ён нам пакінуў на Палессі
Лілейнае святло затток,
І сціплы ў жыце васілёк,
І верша згублены лісток
Бусліных крыл у паднябессі;
Крыніцы – творчасці выток.

Не ўсё даверыў ён паперы.
Шматкроп’ямі яго радка:
Аблокаў белых талака
І цуд Лявона Буяка –
Алтарныя разныя дзверы
Царквы Давыда-Гарадка.

Яго вяла да Храма Прыпяць,
І ён упарта, як бурлак,
Цягнуў з сабою нас няўзнак.
Ён паказаць хацеў нам, як
Затокі срэбрам хвалі ўзрыбяць…
Радзімы ўсмешлівы бурсак!

Пайшоў… І аўдавела рэчка.
Стрыножаны на нейкі час,
Разгублена стаіць Пягас –
Задоўга цягнецца папас.
Самоціцца яго вуздэчка,
Недасягальная для нас…

Куды ж, Айчына, ты без сына
Сярод няўмольнасці жыцця,
Няўжо ў сутонне небыцця?..
Паміж аера і трысця
Плыве без ветразя краіна,
Радзіма – роспачы ладдзя!

2001

* * *

Ўсё з вады пачалося на свеце,
Тут жыццё завялося калісьці.
Ціха гойдае ласкавы вецер
Ўлонне нашай агульнай калыскі.

Для мяне і да сёння загадка,
Хоць пражыта стагоддзя палова,
Як з двух газаў ствараецца вадкасць
І як з гукаў ствараецца слова?

Доля кропель і слоў так падобна:
Напаіць росным ранкам суквецце,
Ці слязою праліцца жалобнай,
Ці вясёлкі стварыць у Сусвеце.

Небасхілу чароўныя кроквы –
Падарункі ад Творцы-паэта.
Зіхацяць дыяментамі кроплі
І квітнеюць радочкі санета.

1999

**Вершык**

Яшчэ не ведаю які,
Але, здаецца, самы лепшы:
Дасціпны, трапны, трапяткі –
Пульсуе ў скронях новы вершык.

І самастойныя радкі
Свае знаходзяць месцы ў вершы,
Плятуць карункамі вянкі,
І кожны з іх адметны, першы.

Заўчасна не збярэш вяршкі,
Хай малако адстой завершыць.
У творцы лёс заўжды цяжкі –
За далягляд імчыцца вершнік.

Ручай спяшае да ракі…
У спелым жыце васількі
Мне дапамогуць верш давершыць.

Хваліцца неяк не з рукі,
Але ніхто не чуў такі –
Нованароджаны мой вершык!

1999

**Слова**

Ад Матфея ды Іаана,
І ад Марка, і ад Лукі
Весткі добрыя хрысціянам
Паляцелі ва ўсе бакі.

Мовы наскай струмень празрысты
Вечна дорыць нам казкі-сны.
Ёсць святыя Евангелісты
Нашай слаўнае даўніны.

Быць адказным за лёс краіны,
Не пісаці святой маны
Навучыліся ад Скарыны
Беларускія вешчуны.

На маскоўца не гнуці спіну –
Вось мужыцкая праўда ўся.
Я клянуся любіць краіну
На Евангеллі Кастуся.

Той узор, як нябёсы сіні,
Што, забыўшыся, тчэ рука, –
Мне Евангелле ад Максіма
Кветкай сціплага васілька.

І дрыжыць, быццам свет заранкі,
У сутонні маёй зямлі
Голас спеўны… Святога Янкі
Сцяць не здужалі маскалі.

Што на ростанях – можа, згуба,
Можа, новая там зямля ?
Вестку добрую ад Якуба
Спасцігаю я спакваля.

А калі знак бяды адчую –
Як сякеру у каваля,
Я сумленне сваё гартую
На Евангеллі Васіля.

Вестку добрую шле Ўладзімір
Кожным трапным сваім радком.
Сталі плёнам маёй Радзіме
Каласы пад тваім сярпом.

І сучасна, пры нашым ладзе,
(Як трымае яго зямля!?)
Дабрынёй чулых слоў Генадзя
Калыхаю я немаўля.

Без ніякіх там алегорый, –
Калі толькі ты не памёр, –
Вестка добрая ад Рыгора
Дапаможа вярнуць гумор.

На паліцу за кніжкай кніжка,

І занята паліца ўся:
Ад Якуба і ад Францішка,
Ад Язэпа ды Каруся,

Ад Радзіма і ад Сымона,
Ад Адама ды Змітрака…
Тых сапраўдных святых імёны
Не прыстане пісаць рука.

Слова, быццам надзея ў доме,
Як для вязня акно турмы, –
Зразумець дапаможа, хто мы:
Каб не звацца, а быць людзьмі!

І сынам я наказ пакіну:
Хай квітнее заўжды зямля,
Што апета ў радках Максіма,
Браніслава і Васіля…

Не да лірыкі… Век шалёна
Забівае ў крыжы цвікі.
Ненапісаны верш Зянона –
Чулы, ветлівы, трапяткі…

Дзе праклёны, а дзе паклоны,
Што не ўцяміце, мужыкі?
Ёсць Евангелле ад Зянона
І няма яго ад “Лукі”!

Ўсё жыццё – на алтар Айчыны,
Каб спыніць векавечны здзек,
А ў падзяку, як звыкла – кпіны,
Лёс пакутны, кароткі век…

Нашу ніву і нашу долю
Аддаюць у прыгон ізноў.
Не прыдбаць нам ніколі волю,
Калі мы не спасцігнем Слоў!

Напачатку заўсёды Слова,
Быццам колас расце з быလля.
Хто сказаў, што пракокаў новых
Не народзіць мая зямля?

Слова зноў прывядзе да справы,
Як да Вільні цячэ Вілля.
Будзе жыта і будуць стравы,
Калі добрай была ралля.

Узаруць і засеюць чыста,
Не марнуючы баразны,
Роднай мовы Евангелісты –
Беларусі маёй сыны.

Кожны раз – быццам ўсё нанова –
Разумеем іх праз гады.
Спасцігаем святыя Словы
І схіляем свае галовы,

Памінаючы на Дзяды.

Кліча нас праз гады з сутоння,
Асвятляючы праўды шлях,
Мовы нашай святой паходня.
І ляціць у абсяг Пагоня,
І лунае адвечны сцяг.

1997

* * *

*Зянону*

Ах, як цябе мне не хапае!
І не ў палітыцы – Бог з ёй!
Самотна ў творчасці маёй –
Ах, як цябе мне не хапае!..
Надзеяю жыву адной,
Што пасля ночы – рассвітае.
Ах, як цябе мне не хапае,
І не ў палітыцы – Бог з ёй!

* * *

Гасцінец у Нікуды з Ніадкуль
Губляецца паміж адвечных зораў.
Жыццёвы шлях, што з цяжкасцю агораў, –
Гасцінец у Нікуды з Ніадкуль!
І што казаць пра нізку ўласных твораў?
Няма нічога вечнага … Адкуль?
Гасцінец у Нікуды з Ніадкуль
Губляецца паміж адвечных зораў!

**Радуніца**

Гасцінец млее ў квецені садкоў.
Пялёсткі летуценнямі, без гуку,
Кладуцца, як мяцеліца, па бруку
Празрыстымі карункамі вянкоў.

А ціша, быццам сон, – з усіх бакоў…
І раптам балагол, як аднаверца,
Раскідвае ў прастору гукі скерца
Шчаслівымі акордамі падкоў.

Шчымлівы гук, амаль з глыбінь вякоў…
Вясна! Не трэба жыць у паняверцы.
І гучным ямбам стукаецца сэрца –
Няволіцца за кратамі радкоў!

1999

* * *

Усё жыццё – чарнавікі:
Тут не дайшоў да простай думкі,
Тут – не хапіла мне рукі
Ці да алоўка – добрай гумкі,
Каб выправіць свае радкі…

* * *

У прысмерку сабака ціха ўзвыў
На поўню. Так журботна і каротка…
І рэхам далятае вокліч продкаў
У велічна-бурштынавы матыў.
Нібыта сон наяве я сасніў,
А зараз і трывожна, і салодка:
Мне вершам аддалася тая нотка,
Вось толькі нешта важнае згубіў…

2000

**Ліstапад**

Зляцеў наўпрост у восеньскі туман
Самотны верш…
За рамаю зашклёнай
Зноў лістапад.
Я спачуваю вам –
Магутным, гнуткім і безабаронным –
Пяшчотным ліпам,
Лістападным клёнам,
Плакучым вербам,
Велічным дубам…
Мой вольны, як лісток, апошні верш
У ліставеі закружыўся долам.
Я, быццам дрэва, –
Застаюся голым.
Што зробіш? –
Пэўна, восеньскі рубеж!

* * *
Як цяжка мне на могілкі хадзіць!
Хаваць сяброў, знаёмых, радакоў.
На кроснах лёсу абарвана ніць…
І ные сэрца, і душа трымціць,
І словы выбіваюцца з радкоў!..

* * *
Усё як звыкла, як заўжды:
Была паводка – будзе межань,
Кастрычнік, лістапад і снежань…
Мінае час, бягуць гады.

Прайшлі Змітроўскія Дзяды:
І слёз хапіла, і усмешак…
Галоўнае – не зблытаць сцежак,
Што ногі збіты – не бяды.

Цяпло змянілі халады,
На ўсё прыродай час адмеран…
На восеньскай палітры – шэрань.
Усё як звыкла, як заўжды…

1998

* * *

Мне для палёту непатрэбны крылы –
Трымаю таямніцу я ў руках:
Нястрымная і ўпэўненая сіла –
Мне Мова да Сусвету шлях адкрыла,
І ў сэрцы вольным захаплення жах!..

І хоць чакае кожнага магіла,
Бо ўсё жыццё – дарога з праху ў прах,
Іду. Пакуль вандроўка не стаміла…
Не, нездарма матуля гаварыла:
“Расцеш, сынок, раз лётаеш у снах!..”

1998

* * *

Я раскрываю сшытак і пішу,
Я давяраю аркушу паперы.
Я ўсё аддам…
Адзінае –
Прашу:
Не зачыняйце, калі ласка, дзверы,
Не выганяйце ў ноч маіх радкоў,
Не прымушайце вершы да жабрацтва.
Не трэба выракацца,
Мы жа – брацтва!
І неяк разам трэба нам сабрацца
На шчырую размову радакоў.
Паслухаць ціха споведзь ці імшу,
Бо закарэлі сэрцам і душою…
Няма для лазні лепшага пакрою –
Я распранаю сэрца і душу!

**На ростані**

Калі ішла дзяльба аблог –
Бог вырашыў даволі проста:
Даў скрыжаванні ўсіх дарог,
Як кажуць у народзе, – ростань.

З усіх краін шляхі вядуць
Амаль абапал нашай хаты –
Не абысці, не абмінуць
Наш край, прывабны і багаты.

Усё прыпомніць трэба час.
Варагі шыбавалі ў грэкі,
А з грэкаў – зноў ішлі праз нас –
Няслі палон, рабунак, здзекі.

Мангол тут швэндаўся і швед,
(Мо толькі неграў не хапала),
І кожны пакідаў свой след,
А Беларусь усё трывала!

Спакон вякоў так і пайшло:
Татараў – вон, крыжак спяшае
Данесці з захаду "святло",
З усходу – "брата" прэцца зграя.

Вось так патроху і дзяўблі!
То злева абскубуць, то справа…
Ахвярны лёс маёй зямлі –
Амаль звялася ў нас дзяржава.

На выбар: з маскалём хаўрус
Ці зноў, пшэпрашам, жыць пад панам.
Таму ліцвін, ці беларус,
І стаў лісьлівым ды рахманым.

Бо ён змарнеў ад тых пакут
І адлучыўся ад дзяржавы:
"Свой трэба выратаваць кут,
Які там сцяг – не нашы справы".

Ды тут прыйшоў падкуты бот.
Пакуты, здзек, мазгам атрута…
На жаль, не ўратаваў народ
Закон Вялікага Статута.

На скрыжаванні тых дарог
Не йдзе на лад краіны справа.
У бойках чалавек знямог,
І стала ў нас прыгонным права.

Двух розных матак пакрысе –
У нашай прыказцы народнай –
Лісьлівае цялятка ссе.
Дурное (гордае) – ніводнай!

Ці зменіцца гаротны лёс,

Ці назаўжды наканавана
Чакаць ад стомленых нябёс,
Калі на нас пральецца манна?

Вакол квітнеючы мурог,
На выпас трэба йсці цяляці.
Яно дарослае, дальбог!
Не трэба цыцку ўжо смактаці!

1999



**Таямніца**

Спяшаюся – у шапку не паспіш!
Я па сцяжынках крочу зноў упарта,
Бо кліча ўдалячынь старая карта:
У ёй амаль пры кожнай вёсцы – крыж!

Нібыта крылы расхінуў анёл
І тым пазначыў сціплую капліцу,
А можа, і асобную званіцу,
Не кажучы пра цэркаўку, касцёл...

Ды мой маршрут ні шэлега не варты:
Я не знаходжу старажытнай варты...
Змяніўся час і разам з ім фетыш.

Ці гэта след наўмыснай касавіцы?
Чаму ж ты, Беларусь мая, маўчыш?
Не разумею гэтай таямніцы!

2001

**Гісторыя з геаграфіяй**

На поўдні я калісьці быў,
На поўначы ў мядзведзяў,
Ды толькі больш за ўсё любіў
Паездкі да суседзяў.

У тых вандроўках незнарок
Запомніў я з маленства
Вясковай бабкі гаварок,
Што родам з-пад Смаленска…

Аднойчы я заехаў сам
Далёка за Усвяты,
На Пскоўшчыну, але і там
Святкуюць нашы святы…

Пад Вільняй быў на хутарах
І сам дзівіўся цуду:
Так беларушчынай прапах –
Заўсёды помніць буду…

“Шумеў сурова бранскі лес,”
А я сядзеў і слухаў.
У спрэчкі мужыкоў не лез –
Патыліцу ўсё чухаў…

Знянацку трапіў аж пад Цвер.
Там вёскі: Волат! Пожня!..
І ў атлас я гляджу цяпер,
Прынамсі… асцярожна.

Ну што пра Польшчу мне ізноў?!
Бываў пад Беластокам,
Дык ад размовы двух паноў
Аж шыбанула токам!

Ад той знаёмай гаманы
Забыў я пра закуску.
Гаворку між сабой яны
Вялі… па-беларуску!

Я больш цікаўлюся цяпер
Гісторыяй дзяржавы.
І выклікае недавер
Мяжа – не без падставы.

Ну, а калі завёз сваяк
У вёску пад Чарнігаў –
Дык стала ясна мне ўсё як
Разгорнутая кніга.

Я, вінаваты без віны,
Намотваю на вусы,
Што не суседзі ўсе яны –
Радня!..
Бо беларусы!
1999

* * *

Што значыць літара адна
Ці змена склада слова?
Як нітку выдзерці з радна –
Палезе ўся аснова.

Спрадвеку горад зваўся Менск,
Стаяў на рэчцы Менцы.
Ды неяк дамагліся змен
Суседзі-іншаземцы.

Абраза, што ні гамані,
А літару змянілі
І ўжо не знойдзеш карані,
Як міну падлажылі.

Павага к віленскім званам
І памяць, не міні нас.
Глядзі, падкладзены ўжо нам
Міндоўгас, Гедымінас…

Свае імёны аддалі,
А з імі і абшары.
Суседзі нам дапамаглі,
А потым камунары.

Нам выйсці трэба з гэтай цьмы.
Каб не рванула міна,
Заўжды павінны помніць мы
Міндоўга, Гедыміна.

Дзе ж супраціў? Ды не шукай
Па назвах знатака ў нас!
І з Трокаў робіцца Тракай,
З Друскенікаў – Друскенінкай,
А з Меднікаў – Мядзінінкай
І Коўна зараз Каўнас.

Да родных каранёў і слоў,
Навука, давядзі нас,
Бо зменяць ўсё за будзь здароў –
Гародня… Гродна… Грдзінас!..

1999

* * *

Залатой ладдзёю сонца
Па блакіце праплывае.
Нетаропка і бясконца
Шлях вядзе па небакраю.

Над марамі, над гарамі,
Над азёрамі лясньмі,
Над шумлівымі барамі,
Над абшарамі пустымі…

Над маім знямоглым краем
Хмурна. Хутка навальніца.
Нават сонейка спяшае
Шэрай хмараю закрыцца.

Аж глядзець яму няёмка:
Што з краінаю зрабілі!
Пры святле, як у пацёмках,
Ў трох сасонках заблудзілі!

1998

**Рэцэнзія**

“Поехал в Вильнюс Скорина…” –
Том БСЭ цытую.
Я, помню, з ночы давідна
Рашаў загадку тую.
Энцыклапедыю закрыў,
А думка, як маланка, –
Машыну часу ён адкрыў,
І вось неспадзяванка:
З часоў сваіх ў дваццаты век
Прышыбаваў Скарына –
Адукаваны чалавек…
Цудоўная машына!
Але загрыз мяне сумнеў
З пазіцыі навукі.
Перачытаў і зразумеў –
Пісалі недавукі.
Так можна ўсё пісаць падрад.
Вось думак паўнаводдзе:
“Браў Сценька Разін Сталінград
Ў семнаццатым стагоддзі.
Не здужаў Паўлюс захапіць
Няскораны Царыцын…”
Пяску папіць і закусіць
Цукеркамі з гарчыцы!

1999

**Сказ пра Палессе**

Ўспамін нядаўняй даўніны:
Разлівы, абарогі…
Ў высокіх травах бацяны
Свае хаваюць ногі.

Ля кожнай вёскі-хутарка –
Рачулка, ручаіна.
Кажан – Давыда-Гарадка
Спрадвечная айчына.

Палешукоў утульны дом.
Гасцінныя парогі.
І ў хвалях Прыпяці – чаўном –
Маладзічок двухрогі.

А як раздольна тут было
Палескім рабінзонам!
Усё прыгодамі гуло –
Куды тваім Гудзонам?!

На кірмашы плылі чаўны –
Якія тут дарогі?..
Так і жылі здавён яны –
Не ведалі трывогі.

Вяліся птушкі у гаях
Па прыпяцкіх прытоках,
І стронга ў чыстых ручаях,
І шчупакі ў затоках.

Раней, як чуў я ад людзей,
Самы ў карчах не спалі,
Яны не тое што гусей –
Цялят з вады хапалі!

Тут борці пчоламі гулі
І лес даваў дзічыны.
Грыбоў насілі хатулі,
Кашамі – журавіны.

Лясун і добры дамавік
Жылі з людзьмі у згодзе…
Ды іншы пачало адлік
Круцельскае стагоддзе.

Прыйшла гаспадаром у дом
Бясхлебная дзяржава,
Паасушыла ўсё суздром:
Канал, хмызы, канава.

Паабяцала жыта даць –
Халявы на дурніцу.
Ну хто тут будзе паважаць
Рачулку ці крыніцу?

Пад лямант гэтай гаманы

Аралі да знямогі –
І змарнавалі дзірваны,
Палескія аблогі.

Зрабіў няўдзяка-чалавек
З прыроды асяроддзе.
Злачынства, ганьба, гвалт і здзек…
Суцэльнае бясплоддзе!

А тут яшчэ сучасны жах
Пакутлівай старонцы:
Ў апошніх кволых ручаях
Ужо не стронга – стронцый!

І нават наш магутны Бог
Парафій, дыяцэзій
Сваіх абараніць не змог.
Паўсюдна свеціць цэзій…

Разбойны доўжыцца разбор,
І сёння ўрад часовы
Папёр на мэблю за бугор
Апошнія дубровы.

Буслам пакорму не відаць
Між дзюнаў і барханаў.
Натура – час кіно здымаць
Пра басмачоў і ханаў.

А інтэграцыі разгул
Малюе перспектыву:
Кіргіз гадуе саксаул –
Ратуе нашу ніву.

Бо лесавік і палявік
Адсюдь даўно зліналі.
Ціхоня, вірнік, вадзянік
Сканалі ўжо ў канале.

І моўчкі, сведкамі маны
Ганебнай перамогі,
Карэюць між пяскоў чаўны –
Палескія пірогі…

2000

**Навука**

Парсючок, калі ў плот ушчэміцца,
Павішчыць, але сам навучыцца.
Мы чакаем, што нешта зменіцца, –
Можа, плот нас трымаць замучыцца?

Не свярбіць ад турбот патыліца.
І цяжэй з кожным годам мысліцца –
Хілы розум да ўлады хіліцца –
Нам для думак патрэбна мыліца.

Мо тады наш народ уздымецца,
Як спасцігне навек галоўнае:
Лепш у хаце сваёй нішчымніца,
Чым за кратамі ды скаромнае!

1997

**Жаданне**

Вандроўкамі я досвед свой агораў.
Адчуў я разам гордасць і канфуз,
Расчулены ад велічы прастораў,
Уцяміў – я тутэйшы, беларус.

Пазбудземся і спрэчак, і разбораў.
Паразважай і сам сабе не схлусь:
Ёсць лабірынт прыўладных калідораў,
А ёсць краіна з назвай Беларусь.

На жаль, мы не пазбеглі наватвораў,
І метастазы даў драпежны вус.
Радок не зберагу я ад паўтораў –
Я спадзяюся, павылазіць з нораў
Рахманы, памяркоўны беларус.

На свеце мноства галаўных убораў,
Ды галава не цэбар пад картуз,
У Беларусі гонар ёсць і нораў –
Сватам з Расеі выкаціць гарбуз.

Не трэба мне ніякіх дагавораў –
Жывуць француз, татарын і тунгус;
Крумкач і бусел, верабей і жораў…
І я хачу, каб жыў і беларус!

**Маёнтак**

Кніжку неяк гартаў і заўважыў
Я гравюру сядзібы старой:
Парк, палац, ліхтары, экіпажы –
Самавіты і ўтульны настрой.

Мне сказалі ў аддзеле культуры,
Перарыўшы папераў запас:
– Недзе помнікам архітэктуры
Ваш маёнтак запісаны ў нас.

Хоць маёнтак не мой, а паехаў,
Як падлетак, – на злом галавы,
Каб знайсці ад сучаснасці ўцеху –
Вёскі, рэкі, лясы, паплавы…

Як даехаў да той панарамы,
Аж жахнуўся, бо ўсё на мяжы:
Рэшткі некалі велічнай брамы,
Дзе-нідзе дагніваюць лаўжы.

І амаль за варотамі прама,
Нельга нават прайсці напраскі,
Хмызнякамі парослыя ямы –
Пэўна, некалі ззялі стаўкі.

Цень пад шатамі парку былога,
Пах трывожны сапрэлай травы.
Дрэвы быццам трымаюць аблогу
У гушчэчы старой крапівы.

Дзве лістоўніцы тут засталіся –
Могуць толькі яны нагадаць,
Як прывабна алеі віліся.
Сёння сцежак амаль не відаць.

Каля сажалкі бруднай – альтанка,
Што калісьці бялела шатром.
На цагляных развалах – буслянка.
Гэта дом зруйнаваны суздром.

З рэчаіснасцю баўлюся ў жмуркі:
Толькі вочы заплюшчу – чуваць,
Як гучаць паланезы, мазуркі…
Ды каго мне за ганьбу ўшчуваць?

Мне спаткаўся мужык касавуркі
Я спытаў, – хто тут ладзіў да нас?
З несвядомасцю звыклай кузуркі,
Ён пацiснуў плячыма ў адказ.

Хто тут жыў, самадур ці асветнік?
Ён не ведаў, што з цягам гадоў
Хараство ператворыцца ў сметнік,
Знікне памяць і сувязь радоў…

У сутонні буяе ажына,

Ўсё навокал жалобна маўчыць.
Прывяла да алеі сцяжына,
Крушня побач – прысеў адпачыць.

Захацеў прыкурыць недакурак
І заўважыў, што рукі трымцяць,
Бо разгледзеў, што гэта падмурак –
Тут капліца стаяла, відаць.

Між здзічэлымі купамі бэзу
Дзірванелі старыя капцы…
Вось якую дварцам антытэзу
Ў рэшце рэшт парадзілі “барцы”!

Ад экскурсіі ўласнай шалею…
У паўзмроку – адразу няўцям –
Цьмяны прывід вянчае алею.
Не разгледзіш – званіца ці храм?

Давядзі да паляны, алея,
Нізкі думак маіх не парві.
Там яліна самотна сумнее –
Сілуэтам, як Спас на крыві…

Сонны храм занядбаны навекі –
Памаліцца і дзверы прымкнуць…
Тут калісьці жылі чалавекі.
Зараз – толькі смаўжы і жывуць.

Пройдзе час, і загояцца раны.
У архівы зарыюся я
І дазнаюся, хто пахаваны!
Ды баюся – Радзіма мая…

1999

**Палессе**

Бяда, браточкі-землякі,
Ці, можа, толькі мне здалося?
Мінулым летам давялося
Ў Мазыр паехаць нацянькі.

Як вокам кінь – адны пяскі.
Дзе краявіду сугалоссе?
Марнее кволае калоссе,
Ідуць каналы напрасткі.

Ці час дурны, ці лёс такі,
Ці ўсё само сабой звялося?
Палессе ў шыльдах засталося:
"Лясец", "Лядзішчы" і… "Пянькі"!

2000

**Паніквы**

Вясна, адліга, капяжы –
Лядзяшкі, нібы іклы.
А ў памяці маёй дрыжыць
Збег літараў нязвыклы.
Тут нават шыльды не відаць –
Што ў падарожжы звыкла
Дапамагае не блукаць –
І тая недзе знікла.

Мае дарожныя крыжы
Ці возьмеце ў разлік вы?..
Вандроўкі – лёсу панажы,
Ніты ў радкі пранiклі.
Спазнаць мне, Муза, памажы,
Як назвы тут узніклі?
Да Белавежжа, па мяжы,
Хаціначкі прыніклі.

Царква драўляная стаіць,
Замшэлы плот паніклы,
І нешта сіліцца стаіць
Паселішча Паніквы.
Маўчы, нічога не кажы
(Я да ўсяго прывыклы),
Ты толькі памяць зберажы,
Сваё імя – Паніквы.
2000

**Маналог**

Еду ў Менск ад Налібок
І даю сабе зарок:
Са знаёмага гасцінца я
Не звярну нікуды ўбок!
Бо заўжды, як незнарок,
Сярод пушчы – хутарок:
Хатку ладную, гасцінную
Адлюстроўвае ставок.

Гаспадар не абібок –
Палісаднік і садок.
Краявід, скажу галоўнае,
Каляровы, як лубок.

Тут зялёны муражок,
На лужку стаіць стажок,
І дзялянка, жыта поўная,
Атуляе беражок.

Ў думках зноў перапалох –
Пад сабой не чую ног.
Я бы побач тут прыстроіўся
І застаўся, далібог!..

Але час – прызыўны рог –
Кліча безліччу дарог,
А ў дарозе думкі-мроі ўсе
Я губляю, як гарох.

Мары здзейсніць я не змог –
Не спрыяў пушчанскі бог.
Але ў думках, быццам песенька,
Гэта назва – Пералесенька –
Налібоцкі маналог…

2000

* * *

Марнее вёска на вачах,
Ссыхае, як галіна.
Звялі балоты – лес зачах,
Цяпер замест ракі ў хмызах
Блукае ручаіна.
Гібее лодачка ў пясках,
Як вокам кінь – суцэльны жах, –
Хварэе ўся мясціна!

Змянілі самі ўласны лёс,
А назва вёскі – Перавоз…

**Рум**

Дзіўная шыльда – плён маіх дум –
Тут, каля рэчкі, з надпісам: "Рум".

Чуцен прыбою сцішаны шум:
Ўзняўся мой ветразь, спраўджаны румб.

Гук выклікае здзіўлены сум –
Звон заціхае з гукамі “рум-м”.

Дальнія горы Каракарум
Назву рыфмуюць з вёсачкай Рум.

Можа, згубіўшы літару, грум
Ехаў калісьці на Арзурум?

Як скарачэнне, літараў тлум,
Аж недарэчна ўспомніўся ГУМ…

Глянь жа ты ў слоўнік, скончы свой глум!
Можа, не трэба ўсіх тваіх дум?

Колькі ж напісана мною лухты!..
“…Ў гэтай мясціне вязалі плыты…”

1998

**Столін**

Праз Гарынь мінаю мост –
Шыльда. Што ў ёй стоена?
Запытаюся наўпрост
У самога Століна.

Столяць хату мужыкі
Ў местачковым Століне,
Паглядаюць убакі, –
Можа, хто па сто ліне?

Выпіў з імі, агурком
Прыкусіў прысоленым
І сваіх пытанняў ком
Вываліў пра Столін ім.

І пачуў: усе наўкол
Замаўлялі столі нам.
Вось адкуль пайшоў засол –
Стала места Столінам.

Стопкі зноў я наліваў –
Добра йшло на волі нам!
Тут на пах прышкандыбаў
Рыбачок няголены.

Новы паварот узнік:
Кажуць рыбакі здавён, –
Сто ліней злавіў мужык.
З тых часоў і Столін ён.

І пайшло – пад чарак звон
Жыхары прыстойныя
Пацягнуліся гуртом
Расказаць пра Столін мне.

Хто цыбуліну прынёс,
Хто прыпёр фасоліну…
На гарэлку попыт рос –
План далі мы Століну.

Ўсё да слоўца запісаў,
Аж нацёр мазоліну –
Столькі новага спазнаў
Дзякуючы Століну.

Што сталіцу пры вадзе
Заснаваць прастольную
Марыў князь тут кагадзе.
Назву ён даў Століну.

Варыянтам страціў лік
Сшытак мой скрамзолены.
Неўзабаве маладзік
Узышоў над Столінам.

Прызнаюся – сам стрымаў

Гутаркі застольныя,
Пасашковы тост узняў,
Страмянны за Столін я.

Потым з музай на сяннік
Я пайшоў здаволена,
А крыху пазней узнік
Гэты верш са Століна.

2001



**Вытокі**

Як раз мы святкавалі Спас,
Літовец з Вільні быў у нас –
Сваяк маім знаёмым.
Пасля пітва і свецкіх фраз
Ён, быццам спелы ананас,
Пытанне на дэсерт прыпас:
“Дзе рэчка Нямунас у вас ?”
І тут узняўся гоман.
Як немцы кажуць: “Was ist das?..”
Няма ракі такой у нас,
І гэта аксіёма!

Ледзь не дайшло ўжо да абраз,
Але знайшоў яму адказ
Дзядуля мой свядомы.
Уцяміў ён праз нейкі час,
Наперад выставіў абцас
І растлумачыў без прыкрас,
Што Нямунас, ён Ням-у-вас,
У нас жа – проста Нёман!
А карані ідуць ад нас,
Каб помніў і ў наступны раз
Усім паведаў дома!

1999

* * *

Вось назва, поўная прыгод
(Сярод лясоў мясціна),
Гучыць, як казка, – Жылін Брод,
А паўстае быліна.

Віруе думак карагод,
Пытанняў блытаніна:
Адкуль той назвы радавод,
Дзе тая каляіна?

Ці йшоў, ці ехаў Жыла ўброд,
З якой такой прычыны?
Я ж еду скрозь без перашкод,
Бо тут ужо каторы год
Няма і ручаіны!..

1999

**Збірогі**

Стаміўся неяк я хадзіць,
Ажно здранцвелі ногі,
І збочыў я вады папіць
У вёску ля дарогі.

Папіў вады з вядра нагбом –
Бадзёрыць лепш, чым кава!
І завітаў у першы дом,
Бо стала мне цікава.

З чаго мне дослед распачаць
І дзе знайсці крыніцу,
Каб назву тую разгадаць –
Палесся таямніцу?
Усе падвор'і апытаў,
Паабіваў парогі,
Але, на жаль, я не пазнаў,
Адкуль пайшлі Збірогі.

Збіралі нешта тут калі
Ці хто каму збіў рогі?
Вяскоўцы сэнс не зберарглі,
Ды берагуць Збірогі…

Да сёння ў памяці гучыць.
А я збіраўся адпачыць…
1999

* * *
Калі хочаш, дык сам і вылічы,
Ці наперад ідзём, ці ўзад?
На Лагойшчыне ў вёсцы Жылічы
Было некалі дваццаць хат.

Зараз – шэсць, з іх чатыры ў дачнікаў.
Нескладана і без задачнікаў!
* * *
Далоў гарэлку са стала!
Спытаю я цвяроза:
Ты перад кім картуз зняла,
Картузская Бяроза?..

* * *
Як гучыць трывожна – вёска Морына,
Быццам рэха даўняе бяды.
Можа, мор тут быў, а можа, мора нам
Засталося ў назве назаўжды?

* * *
Бортнікі, а борцей не відаць,
Хоць ад ліпы пах стаіць салодкі.
Толькі ўжо па назве і пазнаць,
Што і як рабілі нашы продкі.

* * *
Да цешчы еду на бліны –
Мінаю вёску Цаюны.
Адкуль тут назва тая?
Ёсць нешта ад Кітая?

* * *
Чытаю надпіс: "Мулен Руж",
А ў думках – Млын Ружовы.
Здалося – беларусам туш
Парыж зайграць гатовы!

* * *
Бажкі, Ігумен, Святцы…
Камуністы
Змянілі назвы гэтыя наўмысна.
Але стаіць да сёння непахісна
Сяло пад дзіўнай назваю Нячысты!

* * *
На шыльдзе надпіс – р. Беразіна.
Раку за што? – Бярэзіна яна!

* * *
Няма лясоў – лугі, палеткі, грады, –
Як быццам тут прайшоўся інтэрвент.
Ды вёска тая носіць назву Ляды:
Калісьці самі ўсё спалілі ўшчэнт.

* * *
Што робіцца на свеце, хлопцы!
Каб памяць нашую здзяўбсці,

Улада нават шыльду "Стоўбцы"
Цішком змяніла на "Стаўбцы"!

* * *

Белая Лужа,
Загрэбля, Крывая Града –
Хоку на шыльдзе.

**Гарадзея**

Не пытаюся ў людзей я,
Дзе мястэчка Гарадзея?
Еду з Міра на Нясвіж –
Гарадзея будзе між…
Безумоўна, Гарадзея
Мне заўжды адкажа, дзе я.
Вёрст праз дзесяць і Нясвіж,
А магчыма, крыху звыш…

Ўся, як кажуць, прывілея –
Гэта назва – Гарадзея,
А прыбытак і барыш –
Спадзяванне на Нясвіж.
Тут надзея, там падзея…
Ты нязменна, Гарадзея,
Быццам сонная, маўчыш,
Бо гаворка пра Нясвіж.

Местачковай драмы дзея –
Засынае Гарадзея,
Каб не траса на Нясвіж,
Тут была б наогул ціш.
Балаголы і зладзеі,
І паночкі-дабрадзеі –
Едуць, едуць у Нясвіж,
Грукат колаў – як паспіш?

На кірмаш, на асамблею –
Абмінаюць Гарадзею.
Ну, вядома, не Парыж!
Месца ціхае, як мыш.
Я ад сораму ірдзею,
Разумею Гарадзею:
Непадзельна, як спарыш,
З пуцявінай на Нясвіж.

Пешчу кволую надзею,
Што заеду ў Гарадзею
Ды ізноў лячу, як стрыж,
Бо спазняюся ў Нясвіж.
Я ад думак халадзею
І шкадую Гарадзею.
Век на ростані, як крыж
Ля гасцінца на Нясвіж.

Здзейсніў я сваю ідэю –
Скласці верш пра Гарадзею.
І ні слова – пра Нясвіж.
Непатрэбны мне прэстыж!
Гарадзея, Гарадзея,
У цябе адна надзея –
Ўсё жыццё сваё стаіш…
Абудзіся! Ўсё праспіш!

1999

**Вялешына**

Зямлі самотны паланез –
Сярод лясоў праплешына:
Хацінкі, грады, звыклы бэз –
Паселішча Вялешына.
Разгублена, як соль дыез,
Пытанне зноў падвешана.
Мой краязнаўчы інтарэс:
Адкуль пайшло – Вялешына?

Усё, на што дазвол даў лес, –
Малая градка – лешына,
І не кранаў яе прагрэс:
Вялося так – Вялешына.
А лес ніякаваты спрэс –
Сырэе скрозь алешына.
Адсюль, магчыма, і замес?
Ад вяласці – Вялешына.

Калі ў гісторыю палез,
Мне Кліо, муза грэшная,
Шапнула: “Іншы тут разрэз.
Паганства ў тым прымешана”.
Наш старадаўні бог Вялес
Цішком у назву тую ўлез.
З яго пайшло – Вялесіна,
Да нас дайшло – Вялешына!
2000

**Беларусканал**

Вясна, але даволі хмарна.
У полі шыльдачка – Карма.
Прыкмет жыцця амаль няма.
Чарнее зеўраю пачварна
Канал – нацятая струна.

Вар'яцтва жудаснага сна:
Адрына побач, як труна.
Трымае ніцы плот вычварна
Калючы дрот – суздром турма.
Што Беламор і Калыма? –
Жытла шукае бусел марна!

Знікае вёсачка Карма.
Хто скажа мне, чыя віна?..
Змяяцца каляіны парна,
Наўсцяж – дурнота і мана,
Як шрам на шыі ад ярма.

Перамаглі прыроду ўдарна,
Ды відавочна, што дарма.
Цяпер наперадзе – сума.
Нямее краявід папарна.
Шматкамі роднага радна
Губляем Беларусь здаўна…

Вось шыльдачка яшчэ адна
Чырвоным скрэслена ахвярна.
Усё!.. Праехалі… Няма!..
Не ўспомніць вёсачка сама,
Чаму – Карма?
Ці можа… Ка[7]рма?

2001

**Аколіца**

Навальніцы грымотная вольніца
Небасхіл аблажыла наўкол,
Ды маланка, гарэза-раскольніца,
Разадрала пахмурны прыпол.

Нехта кленчыць у хаце і моліцца,
Хто ўхапіўся за матчын падол.
Нам, бяздомным, прыйшлося здаволіцца,
Што знайшлі занядбаны касцёл.

Ацалела амаль толькі звонніца…
У каго запытаць пра дазвол?
А залева, вясковая зводніца,
З неба цэбар абрынула ўдол.

Калі лівень пачаў запавольвацца
І драбнейшы пасыпаў памол –
Час наспеў нам, заложнікам, звольніцца
І разгледзецца добра вакол.

Наваколле няўтульнае золіцца,
І лунае крумкач, як арол,
Над кладамі, што, быццам іґольніца,
Увабралі крыжы ў сухадол.

Вёска колкаю назваю колецца.
Не дазнацца, маскаль ці мангол
Іх, тутэйшых, прымусіў аколіцца –
Збудаваць навакол частакол.

З тых часоў павялося – Аколіца.
Ліхалеццем што хлопец – то ствол.
І, здавалася, неба расколецца,
Калі гналі чужынскіх назол.

Вораг марыў – хамут засупоніцца,
Хціва шчэрыў драпежны ікол,
Ды ўставала Пагоні супольніца –
Зручнай зброяй быў нават і кол.

Час мінуў – і змарнела ваколіца;
Каб не выклікаць новы раскол –
Памяркоўнасць, нібыта нявольніца,
Палічыла за меншае з зол.

Людцы добрыя, што ж гэта робіцца?
Быў надумаў прыўладны асёл
Спляжыць назву старую – Аколіца
І назвацца – г.п. Камсамол.

Не дазволіла вёска-свавольніца,
І з пасады зляцеў “навасёл”.
Рагатала мясцовая вольніца:
“Шчанюку не па зубках масёл!..”

Колькі вёсак такіх, як Аколіца,

Далакопамі зведзена ў дол…
Можа, загадзя нам непакоіцца,
Што смактаць ля труны валідол?

Назву вёскі змяніць – абяздоліцца.
Барані нас, ахоўнік-анёл,
Каб ніколі не знікла Аколіца
Следам тых акалечаных сёл.

Сёння цалкам краіна-ваколіца
Можа трапіць у той перамол:
У начальства паперка крамзоліцца,
Дзіркі робіць у ёй дзіракол.

А народзец на сотках мазоліцца,
Пасвіць быдла, рыхтуе засол,
П'е гарэлку і зрэдку паголіцца –
Што рабіць, калі гол як сакол!

Спадзяваліся: ўлада ачоліцца –
Свой жа хлопец узлез на прастол!
Але ён у сталіцы сваволіцца
Ды гуляе ў хакей ці футбол…

У гісторыі трэба нам школіцца,
Каб жыццё не паставіла кол.
І таму тая вёска Аколіца
Мне да сёння баліць, як укол.

Можа, рана Радзіме нявоціцца
І сядаць за памінкавы стол?
Акалова, Аколле, Аколіца
Захавалі і корань, і ствол!

2001

* * *
Лес галее, як балясы,
Але ўзлесачак вясновы
Пасцяліў свае паласы –
Маладой вясны абновы.

Мо лясун, на плёткі ласы,
Звабіў нас на тыя ўзлескі,
Дзе сарокі точаць лясы,
Быццам нехта трушчыць трэскі.

Пэўна, здзейсніліся казкі –
Мне, прынамсі, так здалося.
Цеплынёй пяшчотнай ласкі
Ўвесну лета пачалося.

Свенціць бусел паднябессе…
Далібог! Усё збылося!
Балазе зязюля ў лесе
Зноў клапоціцца аб лёсе!..

2000



**Вясковы накцюрн**

Скрыпень мяцёлкай пурпурна-ружовай
Хмаркі дазвання з нябёс пазмятаў.
Ветрык прыснуў, і мядзянай абновай
Велічна месяц над лесам паўстаў.

За даляглядам заранка згарае.
Любая, ты не спяшайся дамоў –
Хутка накцюрн адмысловы зайграе
Струнны тутэйшы квартэт цвыркуноў.

Прывідна льецца святло надвячорка.
Ціша такая, што думкі чуваць!
З неба зірнула цікаўная зорка,
Каб да світанку цяпер цікаваць.

Верных сябровак у сведкі пакліча.
Безліч хітрушча-чуллівых вачэй
Замігаціць угары таямніча,
Дорачы лепшую з нашых начэй.

Я твае вочы ва ўласных схаваю –
Спыніцца час паміж явай і сном.
Ты адгукнешся, як рэхам, – кахаю!..
Свет завіруе сузорным сяйвом…

2001

* * *

Цячэ вада з нябёс бясконца,
Ілье, цурчыць на ўсе лады.
Майго чаўна старое донца
Таксама дадае вады.

Бездапаможна звяў мой ветразь,
Як перабітае крыло,
А я плыву туды, дзе летась
Каханне нашае жыло.

Да запаветнай мроі-мэты –
Святла прывабнага ў акне –
Вяслую, думкаю сагрэты,
Што твой агеньчык – для мяне.
Згубіў вясло – адным стырную,
І ўсё на стрыжані ракі.
А дождж бязлітасна лупцуе –
Ўбівае кроплі, як цвікі.

Знямог і розум. Кажа: годзе!
Не даплывеш ужо туды
Ў тым звар'яцелым карагодзе.
Так – недалёка да бяды!..

Не выпадае зноў у лета.
Знясе далёка бедака
Бяздушная, як тая Лета,
Жыцця халодная рака.

Як саван, цемра пакрывае.
Дзе ўрэшце бераг, дзе святло?
Адна вада... Мо Бог карае?
За што?
За тое, што прайшло!..

2000

* * *

Сава кугакала ў бары,
І крык тужлівасці жалобнай
Гучаў самотай непадробнай
Амаль да ранішняй зары…
Не спаў і я да той пары.

* * *

Мне не пазбыцца гэтага ніяк –
Туга на сэрцы, ціск балючы ў скронях.
Душа – пакрыты шэранню лядзяк…
І ўсё жыццё, што наперакасяк,
Твой дотык развітальны на далонях
Трымаю, як на цвінтары жабрак.

**Адзінота**

На вуліцы халодна, дома ціха,
І неўпрыкмет паслалася зіма.
Пустая хата, што твая турма –
Смяротная туга, чаканне ліха.
Ледзь чутная дакучлівая нота
Заблыталася ў коміне даўно.
Ніхто не стукне ў змерзлае акно.
Сумётамі сціскае адзінота.

Заплюшчыў вочы, каб у сне забыцца,
Каб сны пра веснавое хараство
Ці пра духмяны водар верасоў…
Не ведаю, ці мроіцца, ці сніцца?

На вуснах зноў гаркавы смак палыну.
Адкуль у хаце ён сярод зімы?
Як быццам заплятае нехта ў сны
Пажоўклыя пялёстачкі ўспаміну.

1997

**Каліна**

Зрэдчас, у роспачы, калі
Мяне трывожаць успаміны,
Прыходжу ў думках да каліны –
Туды, дзе разам мы былі.

У бездань тыя дні сплылі,
Але ўсё клічуць наўздагонкі
Кахання вешчуны – рамонкі,
Што пад калінаю цвілі.

Кружляла сцежачка ў бары,
Якую помніць ты павінна.
Птушыны спеў гучаў няспынна.
Духмяна млелі чабары.

Як чырванела ў гушчары!..
Ды ў лес цягнулі не маліны,
А вусны спелыя дзяўчыны,
Вачэй бяздонныя віры.

На тым узлессі, ля ракі,
Дзе прытулілася каліна,
Крынічна ззяла ручаіна
І нас хавалі хмызнякі…

Аблокі ў вогнішчы зары
Як галавешкі дагаралі.
Ў чароце плюхаліся хвалі,
А мо дурэлі печкуры.

Туман лунаў каля вады
Смугою шлюбнага убору –
Бялюткі вэлюм без дакору,
Як быццам майскія сады.

Ад непазбежнасці зімы
Схаваўшыся ў чуллівым леце,
Адны на цэлым белым свеце
Каханне калыхалі мы.

Як сон спляталіся ўгары
Сузор'яў велічных узоры.
Ў тваіх вачах ярчэлі зоры
Да светлай ранішняй зары.

Гарэза, ветрык-чарадзей
Нас казытаў мурожным сенам.
Пяшчотным блікам летуценным
Туліўся месяц да грудзей…

Шапталі хвоі-плеткары
Пра нас апошнія навіны,
Дрыжэлі з зайздрасці асіны,
І вартаваў нас дуб стары.

Напэўна, помняць дрэвы ўсе,

Як заірдзелася каліна
І нарадзілася жанчына
Наранку ў сонечнай красе.

Заззялі, нібы светлякі,
Празрыста-бісерныя росы.
Прыгожа, як наўмысна, ў косы
Заблыталіся васількі.

І, як удзячныя дары,
У свет, пакуль яшчэ замглёны,
Панеслі нашыя імёны
Два карабельчыкі з кары.

Сутоннем досвітку плылі,
А мы не ведалі, не зналі,
Што хутка раз'яднаюць хвалі
Надзеі нашай караблі.

Спыніць імгненне назаўжды!..
Але і лету век адмеран:
Замест расы – сівая шэрань
Час расставання і бяды.

Няўзнак у месяцы, ў гады
Звіліся моцна дні разлукі.
А я да сёння чую гукі,
Што чаравалі нас тады.

Мяне далёка завялі
Жыцця і лёсу каляіны.
Былі салодкія маліны,
Але патолі не далі.

Пазней прывабнымі былі
Суніцы ў лесе і ажыны,
Парэчкі побач ручаіны,
Дурніцы, дзічкі, журавіны,
Разынкі, горкія рабіны
І неядомыя крушыны…
А незабыўнасці каліны
Пазбыцца вусны не змаглі.

Зрэдчас – у роспачы калі –
Я галаву хілю павінна:
"Даруй, каханая каліна,
Дні маладосці адгулі.
Квітней і ў памяці жыві,
Кахання нашага скарбонка!.."

Гарыць барвяных ягад гронка
Дакорам, кроплямі крыві…

1999

* * *

Ручаёчак у лесе вірліва
Між каменняў улукаткі ходзіць
І звініць сам сабе гаварліва,
Быццам ім вадзянік карагодзіць.

Як юнак апантаны, спяшае
На спатканне да ціхае рэчкі
І такія ёй песні спявае,
Што ажно счырванелі парэчкі!

Лукавіна рачулкі… Гаёўнік…
Стромкі бераг у хвоях смалістых…
Даляцеў закаханы вандроўнік,
Затуліўся у хвалях празрыстых…

1997



**Удзячны санет**

*Галіне і Барысу*
*Вайханскім*

Ва ўтульнасці пяшчотных ліхтароў
Дрыготка ззяе блік гітарнай дэкі.
Здаецца, два звычайных чалавекі
Спяваюць адмыслова для сяброў.

Крынічнае суладдзе галасоў
Стварае спеўна песенныя рэкі.
Сапраўдная паэзія  навекі
Мяне яднае з веліччу часоў.

Шчымлівая чуллівасць флажалета
Сярод зімы вяртае сэрца ў лета.

У спалучэнні простых нот і слоў
Лунае песні дзіўная камета.
Напэўна, ёсць затоеная мэта
Паміж сузор’яў існасці і сноў.

2001

**Зязюля**

Над вёскаю ізноў настырным ямбам
Зязюльчыны куванні – не ў памер.
Куды падзецца гарлапанкам-жабам?
Прыціхлі, пахаваліся ў аер.

Сарвалася стапа, і ўжо харэем,
Як рэхам, адгукнуўся сонны плёс.
І мы сядзім – падлічваем-хварэем:
У прымхі верым, у спрыяльны лёс.

А ў хмызняку, аддана і гаротна, –
Адно ку-ку, ды ўсё не йдзе на лад –
Гукае безнадзейная самота,
Шукае птушка ўласных дзіцянят.

А ты сваіх падкінула да маці…
Адразу і загана не відна:
Спачатку аж прыемна – ціха ў хаце,
А потым – накукуешся адна !

2000

**Дажынкі**

На мурожнай жнівеньскай атаве –
Жоўты ліст, як сцёртая манета.
Напамін, што восень неўзабаве
Згорне цеплыню ў свае загнеты.
А пакуль, нібыта сон наяве,
І вясёлка – добрая прыкмета…
Як патрапіў твой дзявочы травень
У маё дажынкавае лета?

Страціў я ніты – вузлы і навіць
Лёсу пазаблытвалі сюжэты.
Чарнавік жыццёвы цяжка правіць.
Пазнавата мне збіраць букеты.
Я раней і песняй мог забавіць –
Зараз спеў зрываецца ў фальцэты.
Марыў я радком каханне ўславіць –
Не хапае слоў, адны тандэты.

Навальніцы восеньская навісь…
Не памогуць лепшыя санеты
Срэбрам сівізны маёй аправіць
Дыямент, што ахвяруеш мне ты.
Мы ў жыцці нічога не паправім.
Час нібы імглівая камета…
Як запозна мне сустрэўся травень,
І як рана скончылася лета!..
2001

* * *

Як той казаў, пайшоў працэс:
Абрыдлі пэпсі мне і піца.
З крыніцы мне б вады напіцца,
Каб стрэсці застарэлы стрэс.

Навошта кніжны мне лікбез?
Няхай пыліцца на паліцы,
Бо нельга ўбачыць у сталіцы
Вясну – цудоўнейшую з п’ес.

Лічыце проста: быў і счэз
Дазвання – больш не дазваніцца.
Асірацела камяніца.
Я скінуў горад, як пратэз!

А разам з ім – антагенез.
Ёсць шанс нанова нарадзіцца:
Чакае ў вёсцы маладзіца,
Не горшая за сцюардэс!..

Сцяжынка бочыцца паўз лес…
Пяшчотнае святло газніцы
Стуляе нашы таямніцы…
З гадамі быў, застаўся – без.

Ды нехта ў хату к нам палез,
Нібы зладзюга ў навальніцу –
Раскрыў паціху акаініцу,
Задраў фіранку, як спадніцу,
І так спужаў маю дурніцу!..
А гэта ветрык гойдаў бэз.

2001

**Адпачынак**

Лёс мы свой абралі самі –
Дом ля возера Чарэя,
Думкі сумнымі радкамі
Віснуць на страфе харэя.

Бо надвор’е – быццам кара:
Ўжо ад ранку вечарэе.
Як нязграбная пачвара,
Граб за вокнамі карэе.

Вецер гойдае чаўнамі,
Люта хвалямі вірэе.
Птушка чорная над намі,
Быццам сцяг пірацкі, рэе.

Дождж заблытваецца ў хвалі
З “ласкі” Сівера-Барэя.
Пра такое ў нас казалі:
“Пахавалі архірэя!”

Безнадзейнасць падступае.
Свет бязлітасна хварэе.
Нават жонка маладая
З кожным позіркам старэе.

Мара ў думках б’ецца марна,
З летуценнямі дурэе.
Навальніцаю цяжарна
Хмара грузная шарэе.

Недарэчная ахвяра.
Неба ўжо не падабрэе,
І знясіленая хмара
Хмурна пасмамі макрэе.

Спеў, пачаты жаўрукамі
Ўчора, – сёння не шырэе,
Толькі любая рукамі
І душою сэрца грэе.

Накарміла праснакамі –
Розум без віна вастрэе.
Мокры плот. Ля прасла камень
У сутонні ледзь бурэе.

Хутаркамі, гарадкамі
Дождж ідзе, а мы – мудрэем.
Мы ратуемся радкамі,
Захварэўшымі харэем.

* * *

У спёку, слоту, халады –
Урэшце кожную хвіліну –
Вядзе дарога нас туды,
На месца вечнага спачыну.

Карціна, поўная жуды:
Каштуе смерць, як дама віны,
Прычыну кожнае бяды,
Начынне кожнай дамавіны.

Усё жывое назаўжды,
Як прыйдзе час, пайсці павінна …

Я сам не надта малады,
І нават любая жанчына
Мяне запісвае ў дзяды!..
Жыццё – дарога на клады.

2000

* * *

Вабіць аколіца летняй пяшчотай,
Сена паслаўся мурожны сувой.
Што варажыць на рамонках употай?
Веру – кахаеш!
На сэрцы спакой.
Сціплыя кветкі –
Ахвяры гадання –
Колькі я вас загубіў у жыцці,
Каб да адзінага ў свеце кахання
Блытанай сцежкаю ўрэшце дайсці!

Думкі лагодна-шчымлівыя млеюць.
Поўнямі кветкі прыгожа цвітуць.
Хай варажэйкі мае ацалеюць –
Для закаханых яшчэ пажывуць.
Нечаканая рамонкі зрываю –
Зноў пра каханне дазнацца карціць!
Вось запытаю
І праўду пазнаю,
Толькі пялёстачкі трэба злічыць…

Цяжка пазбавіцца той завядзёнкі,
Як насланнё!..
Ды ўвачч у ўсё дрыжыць –
Дрэнна драбнюткія бачу рамонкі,
Мо, на сланечніках час варажыць?..

2001

* * *

Зносіць восень лісце ціхаплынна
І спыняе гронкамі рабін.
Зноў шляхі мае сышліся клінам,
Зноў, куды ні кінь, – усюды клін.

Сонейка, нібыта для ўспаміну,
Абудзіла постаці ялін,
Ды крывавяць кропкамі карміну
Кропелькі забытых журавін.

Ціша стыне, як перад спачынам,
Роспаччу знясіленых хвілін…
Клін заўсёды выбіваюць клінам,
Ды зляцеў мой жураўліны клін!..

* * *

Кропелькі ззяюць на дрэвах.
Снежань, а снегу няма.
Дзіўная нешта зіма –
Кропелькі ззяюць на дрэвах.
Здзіўленых птушак гурма
Зноў разгубілася ў спевах.
Кропелькі ззяюць на дрэвах.
Снежань, а снегу няма…

* * *

Святлана – святло на зямлі,
І больш непатрэбна нічога.
Імёны заўсёды ад Бога:
Святлана – святло на зямлі,
Ліхтар гэта толькі падмога,
Каб людзі суздром не звялі –
Святлана – святло на зямлі,
І больш непатрэбна нічога!

**Прыгажосць**

Дожджык. Люд ідзе з работы.
Раптам бачу, быццам сон:
Пасярод вясновай слоты
Бел-чырвоны парасон.

У гуморы з той прычыны,
Нібы ведаю здавён,
Усміхнуўся да дзяўчыны,
Што трымала парасон.

Ну якія, браце, гульні?
Проста сонейка ўзышло,
Сярод шэрасці агульнай
Развіднела, рассвіло.

Хто мінае, але хтосьці
Паглядае ёй услед.
Не адменіць прыгажосці
Ні пагроза, ні дэкрэт!

Бо яна прыйшла не ў госці:
Працаваць ёй тут і жыць.
І не ў стане прыгажосці
Цемрашал забараніць.

Дожджык скончыўся раптоўна.
Паглядзеў я наўздагон:
Не схаваўся над натоўпам
Незалежны парасон!

Не знявечаны знявагай,
Быццам сонейка ў руках,
Дзеўчына нясе з павагай
Бел-чырвона-белы сцяг.

Закахана і з надзеяй
Я гляджу дзяўчыне ўслед.
Спакваля я разумею –
Прыгажосць ратуе свет!

**Вера**

Спадзяюся на цуд. Пад квітнеючай слівай,
Дзе бялюткая квецень віруе, як снег,
Зноў хачу цябе ўбачыць прыгожай, шчаслівай.
Хай прыпыняць хвіліны няспынны свой бег.

Назаўжды мне запомніўся той надвячорак,
Як апошні прамень чырванеў з-за лясоў,
І пялёсткамі сліва, як кроплямі зорак,
Упрыгожыла хвалі тваіх валасоў.

Птушкі ладзілі гнёзды на дрэвах рупліва –
Забывала прырода зімовыя сны.
Мітуслівыя ластаўкі ў лёце, імкліва
Абмяркоўвалі чуткі і плёткі вясны.

Мы амаль не зважалі на гэтае дзіва…
Але зараз у памяці ўсё паўстае:
Прыгажуня мая – сарамлівая сліва…
І пяшчотныя словы, і рукі твае.

Нам бясконцасць кахання зязюля кувала,
Апантана салоўка спяваў уначы.
Шчасце побач было – я кахаў, ты кахала…
Але мы гэты дар не змаглі зберагчы.

Недарэчна, як нейкая злая навала,
Прагучалі няўдалыя словы мае.
Колькі часу прайшло, можа ты даравала?
Ды не нам сёння песні салоўка пяе.

Шчасце побач было, ды здалося – замала.
Я туляўся па свеце і нешта шукаў.
Паміж намі прадонне гадоў паўставала –
Можа Бог разлучыў, можа чорт ашукаў?..

Успамінам балючым, як прывід з нябыту,
Развітальны наш вечар ізноў паўстае,
І ў шчымліва-празрыстую бездань блакіту
Вольнай птушкай ляцяць летуценні мае.

У гэтым годзе, калі зноў вясна забуяла,
Сцежка з вёскі сама заманіла ў палі,
У куточак зямлі, дзе нас сліва люляла,
Дзе ў калысцы кахання мы разам плылі.

Ды няма за ваколіцай мілай прывабы,
І пялёсткі не лётаюць, як матылькі.
Ссохла сліва… І толькі счарнелыя драбы
Быццам крык развітальны знямелай рукі.

Але раптам пазбыўся жалобы маўклівай
І балючыя з сэрца сышлі мазалі.
Акрыяла душа – дзве маленькія слівы
Першы раз у жыцці на пагорку цвілі.

Зноў надзея на цуд. Веру парасткам-слівам.

Падрастуць, завіруе іх квецень, як снег.
Нехта будзе напэўна каханым, шчаслівым.
Хай жыццё не спыняе размераны бег!

1999

* * *

Ад ранку нехта шчодрай жменяй
Раскідаў пацеркі ў лясах.
Зіхціць вясёлкамі праменне
На павуцінных кутасах.

З палону соннае ляноты,
Нібыта кропелькі расы,
Ляцяць да наваколля ноты –
Нябачных птушак галасы.

І ты ідзеш па лузе росным
Насустрач сонейку і дню…
Мой успамін, анёлак босы!
Усё калісьці ўпершыню…

Спрыяў спатканню нашай цноты
Світанак – яснакрылы птах.
Яго дзівосныя клейноты
Ў тваіх ярчэлі валасах.

І ўсмешка ранішняй лагодай
На вуснах кветкаю цвіла…
З якой нагоды ўзнагародай
Ты ў маладосці мне была?

Ад летуценнай блытаніны
На сэрцы зноў вясна цвіце.

Дрыжаць расінкамі ўспаміны
На арабінавым лісце.

Я не шукаю паратунку,
Імкнуся матылём к агню…
Ласункі першых пацалункаў,
Калі я вас яшчэ сасню?

2001

**Адкрыццё**

Халодная слота па свету брыдзе.
Цяпло адляцела з буслами на поўдзень.
Чароты стаяць ля вады ў чарадзе,
І разам на небе і сонца, і поўня.

Барвяны убор апранулі лясы,
Сцяжынкі засланы  мядзянай лістотай.
Дзівосная веліч змярцвелай красы
Кранае мне сэрца празрыстай журботай.

Што новага ў тым? Так заўсёды было.
Ды нешта шчымлівае ціснецца ў грудзі:
Яшчэ адно лета маё адышло
І болей ніколі такога не будзе…

* * *

Як імкліва ляцяць часы!
Што зрабіць, каб яны прысталі?
Медна-любыя валасы
Сталі колеру стылай сталі…

* * *

Увесь блакіт злізала з неба восень,
І пасмы раскудлаціліся ў хмар…
Каб загасіць кастрычніцкі пажар –
Ужо замала засталося вёсен!

* * *

Усё жыццё з сабой нясу
Сустрэчы нашы і разлукі…
Твае збянтэжаныя рукі…
Смак вуснаў – быццам піў расу…

* * *

Час немагчыма павярнуць назад –
Вядзе няўмольна лёсу каляіна.
І нават асалодай успаміну
Час немагчыма павярнуць назад.
Балюча і салодка бачыць сына,
Таму і сэрца б’ецца неўпапад.
Час немагчыма павярнуць назад –
Вядзе няўмольна лёсу каляіна!

**Апошні снежань**

Кладзецца снег, як быццам назаўжды,
Ля плота ўжо грувасцяцца сумёты.
Бясконцыя сівыя халады…
Паснулі вёскі, толькі гарады
Васкова свецяць вокнамі, як соты.

Гартаю зноў мінулыя гады…
На небе месяц – знак маёй самоты.
Не выбрацца з будзённай чарады
І не адрозніць шчасця ад бяды,
Каб не ўспамін кахання і пяшчоты.

1999

**Прыходзь!**

Апошнім часам, па вясне,
Чакаю ўсё часцей,
Калі салоўка распачне
Свой спеў – чысцей, чысцей!

І ненарокам падштурхне
Ўспамін пра маладосць,
Калі мурашкі па спіне,
Ад пацалунка – млосць.

А памяць – скнара пры казне,
Напэўна, з варажэй –
Шчыруе зелле ў чыгуне,
Падкідвае дражджэй.

І вось аднойчы палыхне
Забытае стакроць:
"Прыходзь увечар да мяне,
Бацькоў няма – прыходзь!.."

Вясна пяшчотай ахіне.
Каторая з начэй
Да ранку вочы не самкне.
Прыпомніцца ярчэй…

Паўмесяц, быццам у паўсне,
Сузор'яў пазалоць.
Шалеў салоўка пры гумне
І вар'яцела плоць.

Агеньчык – знічкаю на дне
Збянтэжаных вачэй,
І шэпт у травеньскім акне:
"Хадзі ка мне хутчэй!.."

Я зноў у месячным чаўне
Вандрую ў тую ноч.
У першароднай белізне
Квітнеюць дрэвы ўзбоч…

Хоць сёння скроні ў сівізне,
Мінулае бліжэй.
Як тая вытрымка ў віне,
З гадамі – даражэй.

Усё калісьці праміне –
Не ўхопіш за аброць.
Прыходзь, каханне, да мяне,
Ну хоць у сне – прыходзь!

**Надзея**

Неяк нястрымна,
Імкліва мінае жыццё.
Сумна…
Туляюся больш за паўвека па свеце:
Скроні ссівелі
І сталі дарослымі дзеці,
І, тым не менш,
Кожны дзень для мяне –
Адкрыццё!

Колькі пражыта на свеце чароўных мінут!
Быццам вясёлка іскрыцца
Ў крышталіках лёду –
Дорыць жыццё асалоду,
Як кропелькі мёду,
Каб не загорка было паміж бед і пакут.

Вось ужо восень,
І хутка ізноў халады.
Не разумею –
Хутчэй адчуваю я сэрцам:
Век – для жыцця,
Але будзе імгненне для смерці,
Што б ні рабіў – анічога не возьмеш туды.

З кожнай хвілінаю менш разумею жыццё,
Холад самоты дае мне ў адказах навука.
Песню не створыш ніяк
З камертоннага гуку,
Песню без сэрца чакае заўжды забыццё.

Колькі адмерана? –
Зноўку пытанне дрыжыць.
Колькі разоў
Мне спяе сваю песню салоўка,
Колькі радкоў
Набяжыць на паперу з алоўка,
Колькі хвілін хвалявання паспею пражыць?

Я зразумеў,
Што з імгненяў складаецца век.
І не спыніць,
Не стрымаць той хады чалавеку.
Ледзь азірнуўся,
І ўжо апускаецца века –
Сонца не бачна з-за сцятых навекі павек.

Як там за краем? –
Не скажа мне нават і Бог.
Можа я ўбачу –
Не ведаю, з пекла ці раю, –
Што мае вершы наогул ніхто не чытае.
Хіба і вершы як след напісаць я не змог?

Што ж застанецца,

Калі адыду я ў нябыт?
З гэтым пытаннем звяртаюся,
Пэўна, не першы.
Хай застануцца
Хоць тры невялічкія вершы,
Добра, не тры –
Хай адзіны не будзе забыт.

Свеціцца ў цемры
Надзея агеньчыкам мне:
Ўсё праміне –
Застанецца на свеце каханне.
Можа, калісьці юнак
У пяшчоце спаткання
Сэрца каханай маімі радкамі кране?

Пэўна, і ён не ўзгадае мяне праз гады.
Сціплы самотны радок прагучыць ананімна,
Проста да зор паляціць на чароўным уздыме,
Гімнам каханню,
А што без імя – не бяды!

1997

* * *
Ішоў з рыбалкі я дамоў…
Мая хаціна з краю.
Я ўсіх, як выпадзе улоў,
На чарку запрашаю.

Прабачце – блытана пішу,
Бо сапраўды гасцінны!..
Дык вось, як чорную імшу
Я ўбачыў ля рабіны.
Там процьма птушак над галлём –
Аж неба ўсё счарнела –
На дрэвах, побач кругалём
І лётала, й сядзела.

А вэрхал быў і грай такі,
Што стаў слупом, аглухлы.
Блішчэлі дзюбы, як цвікі,
І вочы – быццам вуглі.

Былі варонамі яны
Ці кімсьці з крумкачовых? –
Дзялілі месцы груганы
Ля гронак кумачовых.

Размеркавалі і тады
Пачаўся баль птушыны –
Пасля марозаў, як заўжды,
Салодкія рабіны!

І снег у бляску ліхтароў –
Дасюль перад вачамі –
Зачырванеўся, быццам кроў
Праліта крумкачамі.

...Мінула ноч трывожных сноў.
Скрываўленыя раны
Снег, лепш за іншых дактароў,
Забінтаваў старанна.

А гронка ў шэрані – працяг
Насуперак варонам –
Лунала ўверсе, быццам сцяг,
Узнесены Міронам.

* * *

Ноч, вуліца, ліхтар, аптэка...
Няма чаго перакладаць.
Я супраць Блока – недарэка,
Дакладней мне не напісаць.

На Мяснікова – во дзе здрада –
Жыву я, быццам у гасцях.
Лангбардны побач Дом урада
Бяздарны ў небе песціць сцяг.
Далей, на плошчы ў тры гектары,
Дзе Незалежнасць браў народ, –
Манізераўская пачвара
Грувасціцца каторы год.

Як пераможца паглядае
На наш сталічны гарадок.
Зноў воля нам не выпадае,
Лёс – памяркоўнасці аброк.

Куды падацца чалавеку,
Як выйсце з цемры адшукаць?
Мы дажылі да скону веку –
Амаль няма чаго дадаць!..

Вось супрацьлеглае аконца,
Мо знойдзе тут патолю зрок?
На жаль, здзяйсняецца бясконца
Паэта-вешчуна вырок.

На вуліцы калдобін слалам.
Ярчэюць цьмяна ліхтары.
Дзе нешта фірма будавала –
Стаіць …аптэка, хоць памры!

Вачамі скіфа ці ацтэка
Хітрушча пaглядае Блок.
Ноч, вуліца, ліхтар, аптэка –
Дакладны, як прысуд, радок.

Усё нанова… Як спачатку,
Павінны мы трымаць удар.
Ноч кідае сваю пальчатку –
Аптэка, вуліца, ліхтар …

Куды ні глянь – адзіны мізер
Наканаваў расейскі бард.
Перакладаю зноў. Манізер.
Ноч. Акупацыя. Лангбард!..

Чэрвень, 2000

**Байка**

Гарэла добра печ,
Але народ
Палёгкі захацеў – прызначыў служку,
Каб ён паліў.
Няўклюда і звырод
Усё зрабіў якраз наадварот –
Перш-наперш зачыніў ціхутка юшку
І запусціў у хату ўвесь смурод.

Калі мазгоў няма і на панюшку –
Насмешыць можна нават і цялушку!
І душыцца народ каторы год…
Ды мо знайсці прыдатную папружку
І не сядзець,
Вады набраўшы ў рот,
А шугануць няўцямлівага служку?!

Ці ўчадзеем,
Ці ўсё-такі дапетрым
Праветрыць душы шчырасці паветрам?

2001

* * *

Піць навучыліся па-руску,
Ды толькі вось які канфуз:
Нам не хапае на закуску,
І п'ём мы нават не ўпрыкуску –
Ўпрыглядку на стары абрус!

* * *

Я шмат чаго ў жыцці спазнаў:
Знявагу, здраду і пакуты,
Як б'е па рэбрах бот падкуты
І ўнутраных, і знешніх спраў…

Ды ўсё ж травінкай ці лістом
Увесну неяк прарастаю
І спадзявання не губляю –
Будую свой, уласны дом.

Хай шэрань сцяла галаву
І недарэчны час бушуе,
Ды не аддам сваю душу я,
Бо тут і сёння я жыву!

2000

**Заклік**

Калі страшэнная вайна
Адлічвала мільёны,
Гучала з ночы давідна,
Каб берaглі патроны.

Крывёй уратавалі свет.
А ў першы сеў вясенні
Пачулі новы запавет,
Каб бераглі насенне.

І ў клубе нашым з году ў год
На кумачовай сцэне
Вісеў да сейбітаў зварот,
Каб бераглі ўгнаенне.

А потым зберагалі мір:
З агрэсарам сам-насам
Наш кукурузны брыгадзір
У стол лупіў абцасам.

Аднагалосны быў імпэт,
Як пляскалі мы ў ладкі.
Мы зберагалі мірны свет –
А ладзілі рагаткі.

Ледзь-ледзь трымаецца народ,
І думкі ўсе пра чарку,

А ў гэных новы паварот,
Каб берaглі салярку.

Сучасныя палітрукі –
Па два, па тры дыпломы –
Такуюць, як цецерукі,
Каб берaглі цяпло мы.

Напэўна, будуць ушчуваць,
Што цалкам безыдэйны,
Ды я хачу прапанаваць,
Каб берaглі людзей мы!

Бо тут крычы ці не крычы –
Хоць нешта трэба зберагчы!
2000

**Споведзь**

Край пакутны, дрымотны, стамлёны…
Ці любіць мне цябе, ці забыць?
То я ўкленчу, то шлю я праклёны –
Хто мне скажа, як з гэтым пражыць?

Не пазнаць мне маленства мясціны.
Дзе гарэза-ручай, паплавы?..
Пазвяліся даўно журавіны,
Не ляцяць больш сюды журавы.

Дзеткам сажалкі ўсе па калена.
Не бруіцца ў крыніцах вада…
Прамільгнула адно пакаленне,
І ўжо стукае ў дзверы бяда.

Навукоўцы, мае недарэкі,
Дысертацыі пішуць ізноў.
І каналамі робяцца рэкі,
Абмінаючы нашых сыноў.

Мне нясмачная рыба з канала,
Мне патрэбна жывая вада!
Што рабіць, каб яна не сканала?
Зараз думаць сыноў чарада.

Ад вады ўсё жывое ў Сусвеце.
Без вады ні туды, ні сюды:

Без яе і вясёлкі не свецяць,
Без вады не квітнеюць сады…

Не ў ладах я з сумленнем! І дзеці
З недаверам мне ў вочы глядзяць:
Каля вёскі, у леташнім леце,
Я не змог ім крыніц паказаць.

Я не змог напаіць іх вадою.
Аніводнай крыніцы. Ані!
Зарасло ўсё імхом, лебядою.
Ссохлі дрэваў старых карані.

Я не змог растлумачыць вытокаў –
Скуль бярэцца дзівосны напой.
Не спатоліў іх смагу я ў спёку
Абяцанай крынічнай вадой…

Сцежкі вывелі нас на гасцінец.
Доўга моўчкі ішлі пехатой:
Троху ўперадзе я – як злачынец,
Троху ззаду сыны – як канвой!..

Не было мне ніколі так кепска.
Дзе падзеўся бацькоўскі спакой?
Сын з лядоўкі працягвае пэпсі:
“Пэпсі, бацька, – сучасны напой”.

Без крыніц і ў багацці я бедны.
Вінаватасць у сэрцы нашу.
Ці ў царкве адстаяць мне абедню,
Ці ў касцёле паслухаць імшу?

Не! І Божа мне ў тым не паможа.
Стрэмка тая пад сэрцам навек:
Без крыві – не жыве чалавек!
І зямля без вады жыць не зможа!

1999

* * *

Кім наканавана
Нашаму народу
Вечна жыць пад панам
І шукаць свабоду?

Колькі пакаленняў –
Спрэчкі пра Радзіму.
Толькі ўстаць з каленяў
Так і не змаглі мы.

Бізуны на спіны,
З’едкі з панскай ласкі…
Разумнейшым – кпіны.
А дурніцам – казкі!..

**Тартак**

Лесапілка ў Замосці – асобнае штосьці!
Краявід наваколля паціху звяла.
Спілавалі лясы за бугор ягамосці,
Бо такую магчымасць улада дала.
Да суседняй дубровы даехалі справы:
Немясцовыя – валяць, тутэйшым – баліць.
Ды не знойдуць дзяды на чужынцаў управы,
Маладзейшых прасілі – тым выпіць карціць.

Вось і летась – палеглі дубы-веліканы.
Пэўна, моцныя будуць у немцаў сталы!
Пілавалі ад ранку – народ меней п’яны.
Пачалі, але ўразілі гукі пілы.

І раптоўна на майстры кашуля спацела,
Як угледзеў, з чаго завішчэла піла.
На падлогу нямецкая куля зляцела,
Што паўвека жыла ў сарцавіне ствала.

Майстра долу асунуўся, цела здранцвела.
Валідолу піхалі, ды дзе! – Ні шыша!..
Як маланка – раптоўна і незразумела –
Адляцела на неба ці ў пекла душа…

Справа простая – людзі старыя казалі, –
Ён жа помніў з маленства да гэтага дня,
Што ягоных бацькоў ля дубоў расстралялі,

А яго, немаўля, ўратавала радня…

А назаўтра ў сасновай труне пахавалі:
Ды каб з дошак – амаль чысцяком гарбылі!
Мо тры дні апасля на памінках гулялі
І заробак дубовы – ушчэнт прапілі!..

2001

* * *

Ляцяць няўмольныя гады,
Мінаю кропкі змрочных вехаў
Усім вядомай чарады:
Ясенін, Байран, Пушкін, Чэхаў…

За сценкай чуцен водгук смеху.
Сусед-алкаш не п’е вады,
Жыццё ўспрымае як пацеху –
Жыве й не ведае бяды.

Ён у талстоўскія гады
Гарэлку жлукціць і не з’ехаў,
І не спяшаецці Туды!

1999

* * *

Так яшчэ вялося да Гамера:
Ставілі ў гародах недарэк,
Каб настрашыць птушку, спудзіць звера…
Быццам бы, на першы погляд, – здзек,
Ганьба чалавецтву з веку ў век?
Але ёсць у розум продкаў вера:
Пудзіла – заўсёды чалавек!

* * *

За вокнамі слата і скруха –
Вось-вось і восень праміне,
Гаротная, як пабіруха…
Апошняя ў сусвеце муха
Знайшла прытулак у мяне.

Паўзе, нібыта валацуга,
Шукае шчыліну ў сцяне.
Хутчэй хавайся, недалуга,
Бо знойдзе квадратуру круга
Павук на восеньскім акне!

* * *

Чаму стаю, як паралітык?
Перада мною цэлы свет.
Ужо ад'ехаў і палітык,
І бізнесовец, і паэт!..

Чаму, як перуном працяты,
Скрануцца з месца не магу? –
Я ў будні і ў чужыя святы
Для іх Радзіму берагу!

* * *

Не ведаю, з якіх прычын
Запелі мужыкі фальцэтам,
Не заўважаючы жанчын;
А ў мастакоў няма карцін,
І цяжка пішацца паэтам;
І з кожным годам менш мясцін,
Дзе адчуваеш, што – адзін,
Сам-насам з Часам і Сусветам…
Не ведаю – з якіх прычын?

* * *

Вясковым вэлюмам нязДзейсненых надзей
Гаркавы дым заблытаўся ў тумане.
Канае дзень…
Якое будзе ранне?

* * *

Дождж пануры і стылы…
Імжа
Далягляд асляпіла наўкол.
Ля дарогі бурэе мяжа,
А на колішнім месцы крыжа
Пачарнелы ўздымаецца кол,
Быццам клічнік за нізкаю хат!..
І крычыць пра жыццёвы раскол
Ручніка спарахнелага шмат,
Ды не чуе трывожны набат
Набрынялы вадой сухадол…

2000

**Блакітная балада**

Цішыня ў Беларусі – памяркоўна ўсё звонку,
Ды без працы прыстойнай цяжкавата і ў нас.
І сабраўся наш хлопец у чужую старонку,
Каб разжыцца грашыма і пабачыць Каўказ.

Адгаворвалі людзі, і матуля казала:
“Нельга, сыначка, грошы зарабляць на вайне”.
І яго б не пусціла, і яго б затрымала,
Калі б нешта адчула ці убачыла ў сне.

Сын прасіўся ў матулі, каб яго б не трымала,
Што ўсяго на паўгода падпісаў ён кантракт…
І ручнік даматканы, як матуля казала,
На крыжы павязаў ён перад выйсцем на тракт.

Недзе рваліся бомбы, недзе стрэлы гучалі –
Хлопец ведаў пра тое ад вайсковых сяброў.
А блакітныя горы, як спрадвеку, маўчалі
І не зналі, навошта праліваецца кроў.
Не рабіў асабіста ён нічога благога,
Бо ў вайсковай пякарні цэлы час працаваў.
Неўзабаве чакала на радзіму дарога –
Ён падлічваў дзянёчкі і ўжо справы здаваў.

Ды адолела неяк небараку спакуса
Пахадзіць, быццам дома, басанож па расе,
А руплівыя рукі юнака-беларуса
Ссумаваліся моцна па звычайнай касе.

Абмінуў ён дазоры і спусціўся ў даліну,
Дзе зялёныя травы так прывабна цвілі.
“А я лягу-прылягу, рукі ўшыркі раскіну…”
Прыгадалася песня беларускай зямлі.

А ў даліне буялі незнаёмыя кветкі,
Невядомыя птушкі пелі песні свае.
Ўстала ў памяці вёска, мурагі і палеткі:
Дома, пэўна, таксама новы дзень паўстае.

Ён не ведаў, што знойдзе так далёка магілу,
Не адчуў перад стрэлам аніякай жуды.
Абваліліся горы у блакіт небасхілу
І ў блакітныя вочы заплылі назаўжды.

І жалобныя хмары – можа, нават з Эльбруса –
Быццам люстра, закрылі далягляд сінявы,
А знямелыя рукі юнака-беларуса
Ўсё сціскалі былінку незнаёмай травы…

Каб закрыць хлопцу вочы, прывялі аксакала.
Ці прасіў ён Алаха пра душы супакой?
Ды маршчынка на твары
кроплю-слёзку схавала,
Бо здалося, што неба закрываў ён рукой.

На чужыне зямелька не пасцелецца пухам…

І нашто ён паехаў, як на злом галавы,
І чаму, небарака, ён людзей не паслухаў?
Быў бы побач з матуляй і да сёння жывы.

Не шумяць каля хлопца векавыя бярозы.
Ці растуць тыя дрэвы на чужой старане?
Ледзь прыкметнае ўзвышша
росы кропяць,як слёзы,
Калі вецер чужыя хмызнякі скалане.
І навошта пакінуў ён бацькоўскі падворак?
Спакусіўся на грошы?
Але грошы – падман!..
Зарастае травою невысокі пагорак,
Як бінтамі, даліну спавівае туман.

На радзіме сыночка ўсё чакае матуля,
Паглядае ў аконца на гасцінец стары.
Бо каму ж, як не сыну, так бясконца зязюля
Абяцае гадочкі ад зары да зары?..

І ў каго ні пытала, і куды ні пісала –
Адусюль прысылалі, як адпіску, адказ.
Слёзы засцілі вочы, як паштарка чытала:
"Больш у вольнанаёмных
ён не лічыцца ў нас..."

Застаяліся травы на духмяным пакосе,
І бялюткаю коўдрай паляглі туманы.
Прагучалі грымоты, а матулі здалося,
Што пачулася рэха непатрэбнай вайны.

Нейк маці сасніла маладых дагестанцаў –
Пасплятаіліся думкі і трывожныя сны.
І спрасонку ўявіла –
зараз вернецца з танцаў!
З хаты выбегла – косяць у суседкі сыны...

Больш не будзе нічога, не народзяцца ўнукі.
Ў адначассе і мары, і надзеі звялі.
Ці зусім непатрэбны працавітыя рукі
Для радзімай старонкі і для ўласнай зямлі?

На высокія тэмы разважаць нескладана,
Але трэба спыніцца на апошняй мяжы,
Бо не ведае маці, дзе сынок пахаваны,
А ручнік даматканы ўжо збуцвеў на крыжы.

Пад маскоўскую ўладу беларусаў прыгнулі
Вераломна, нахабна, не пытаючы нас.
Нецікава нікому меркаванне матулі,
Што на Случчыне ціха дажывае свой час.

Не збіраюцца злыдні анікога пытацца –
Ім патрэбна чужыя захапіць берагі.
Можа, хопіць, браточкі,
памяркоўнымі звацца?

Лепш ва ўласнай краіне раскаваць ланцугі!

…Цішыня.
Ў Беларусі памяркоўна ўсё звонку.
Нас вядуць ціхай сапай у “славянскі”хаўрус.
Пэўна, некаму трэба аднавіць завядзёнку,
Каб “расейскую еднасць” бараніў беларус?!

Люты, 2000

**Парыжскі санет**
*Барысу Забораву*

З чужога неба дождж ільє чужы,
Блішчыць Дэфанс, прыгожы і
няўтульны,
І прывід Эйфеля, як каравульны,
Разгублена стаіць сярод імжы.

І Нотр-Дам хавае вітражы,
А кантрафорсы ў Сене, як галеры,
Нясуць свае пачвары і хімеры –
Няўлоўныя, нібыта міражы.

Раптоўна ветрык хмарную шнуроўку
Разблытаў, і заззялі капяжы…

Але… Калі запросіш у вандроўку
Да самае апошняе мяжы,
Мой Божа, на імгненне пакажы,
Мне ціхую, старую Камароўку!..

2000

* * *

*Валянціне Трыгубовіч*

Хоць размаўляць пра добры дзень
Не надта зручныя часіны,
Але і сёння мы павінны
Хоць размаўляць пра добры дзень.
Таму парада Валянціны
З руціны свеціць, як прамень,
Хоць размаўляць пра добры дзень
Не надта зручныя часіны.

* * *

Не разумею нешта я
Апошнім часам анічога.
Куды вядзе мяне дарога? –
Не разумею нешта я.
А можа, запытацца ў Бога?
Ды што яму туга мая…
Не разумею нешта я
Апошнім часам анічога!

**Вяртанне**

Не сумуй без мяне,
Далягляд пад буслінымі крыламі.
У радзімым акне
Дачакайся мяне, мая мілая.
Многа бачыў людзей,
Але нешта ні ўдзень і ні ўночы я
Не сустрэў анідзе
Прыгажэйшыя вочы дзявочыя.

Мне ўсю праўду, як ёсць,
Адкрывае зямля невядомая:
Пажаданы тут госць,
Ды, вядома, прыйшоў не дадому я.
І краіна, як рай,
Але тут не спявае душа мая
Без цябе, родны край,
Бо зямля мая – любая самая.

Сніцца мне цішыня
Пад світальнымі зоркамі стылымі.
Быццам я бусляня
І пакуль не валодаю крыламі.
У журбе, пехатой
Я спяшаюся золкімі ранкамі
Да мясціны святой,
Дзе і хаты, і дрэвы з буслянкамі.

Дзе гарэза-ручай
Размаўляе крынічна з парэчкамі.
І бярозавы гай
Прытуліўся ля сажалкі свечкамі.
І ў галлі салавей –
Нават лес вар'яцее ад пошчаку –
Так пяе, чарадзей,
Што, напэўна, чуваць і нябожчыку.

Вам бясконца магу
Гаварыць пра пагоркі і долы я,
Дзе вясёлкі дугу
Уздымаюць дубы небачолыя,
Дзе плывуць паплавы,
Ручнікамі туману спавітыя, –
Там пачуеце вы
Нашых песень радкі сакавітыя.

Там чакаюць сябры.
І старыя муры – таямніцамі.
Там паляны ў бары
Чырванеюць святочна суніцамі.
Там мой век і спачын,
Бо Радзіма заўсёды адзіная.
Многа ў свеце жанчын,
Але толькі матуля – радзімая.

Ты мяне сустракай,
Расхіні далячынь сваю шчырую,
Родны мой небакрай,
Я вяртаюся птушкаю з выраю.
Быццам песня, імя –
Не стрымаю пачуцці і вусны я.
Ты мая цеплыня
І пяшчота, і боль – Беларусь мая.
Чэрвень 2000

**Нажытак**

Знеслі на клады дзядка Яўмена.
Зладзілі памінкі земляку.
Гаварылі ўсе папераменна:
Колькі бачыў на сваім вяку,
Колькі працаваў!
Лічы – бязмерна…
Але ўсё на вёсцы йдзе нязменна –
Спадчына, нажытая сумленна,
Ватнікам вісела на цвіку!

* * *

Кавалачкі пачуццяў і жыцця:
Лісты, старыя грошы, сувеніры…
А гузікі, а лычкі на мундзіры…
А колькі ў кніжках ссохлага лісця?..

Па закутках збірае веку пыл
Заведама мінулая надоба.
У кожнага свая, на свой капыл,
А як збярэшся выкінуць –
Шкадоба!

**Зіма**

Трыснягі вы мае,
Тры снягі
Вас аблыталі сцюжай зімоваю.
Халадэча, падступнаю змоваю,
Захапіла ў палон берагі.

Дзе-нідзе, як чужыя сцягі,
Уздымаюцца дзіды рагозныя.
Толькі зорачкі ў небе марозныя
Размаўляюць са мной на мігі.

Курганамі цямнеюць стагі,
А зямля не ўзарана – разорана.
Стыне ўсё наваколле заморана,
Спяць пад снегам лугі і лагі.

Абяцалі даваць пірагі
Памяркоўным, лагодным і скораным;
Абяцалі прынаднага скору нам,
Ды нішчымніца сушыць мазгі.

Спачування не маюць багі.
Не памогуць ужо загаворы нам,
Бо вароны над полем нявораным
Непазбежна сціскаюць кругі.

Лёс нам, пэўна, не зладзіць другі.
А сынам?.. Ці не будзе агідна ім
Жыць у прымах у доме раскіданым –
Можа, ўрэшце, мы сплацім даўгі?..

На рачулках ільдоў ланцугі.
Непрытульна, гаротна і сорамна…
Толькі ў сэрцы – цяпельцам няскораным –
Бел-чырвона-
Былыя сцягі!..

**Чужое свята**

Пра свята неяк байку чуў,
Пра госця-беларуса:
Сышоў ён з крыўдаю ўваччу,
Не намачыўшы вуса.

Вяселле колькі дзён гуло,
А ён не выпіў дозы.
Маўляў, прымусу не было –
Таму пайшоў цвярозы.

Сусед-расеец запытаў –
Чаму такі гаротны?
“Прымусу не было да страў –
Дамоў іду галодны!”

Але сусед не зразумеў, –
Навошта трэба прымус?
Ты б хоць халоднага паеў,
Бо стравы – проста цымус!
Ён сам і выпіў, і пад’еў,
Сапеў сабе ў сапелку,
Але ніяк не разумеў:
Навошта грэць гарэлку?..

Я б не капаўся ў тым быллі,
Каб не было нагоды
Мне ўбачыць, як да волі йшлі
Суседнія народы.

Яны ўжо самі рэй вядуць –
Літоўцы ды палякі.
І п’юць, і смачнае ядуць,
І дзеткам ёсць прысмакі.

А ў нас не лёс, а так …палын.
Не стаў народ свабодным.
Чаму ж застаўся ён адзін
Зняволеным, галодным?

Пытанне гэтае задаў
Вяскоўцу-беларусу,
І ён мне шчыра адказаў:
“За волю я б галасаваў,
Ды не было …
Прымусу!”

ТУТЭЙШЫМ СЛОВАМ

* * *

Ня**хай ку**гакне
**Хоку** кволае маё
Тутэйшым словам.

* * *

Сыпле ў вочы снег.
Што за спіну пазіраць? –
Замяце сляды.

* * *

Сонейка днее.
Плачуць ужо ледзяшы.
Хто пашкадуе?

* * *

Прэлае лісце.
Дружна свідруе трава
Дзюрачкі ў лета.

* * *

Букет назбіраў.
Як даўно не дарыў я
Першыя кветкі!

* * *

Бусел кружляе.
Кінулі людзі жытло.
Каму немаўля?

* * *

Памяць кахання
Адгорне ўспамінамі
Кветачка ў кнізе.

* * *

Хлапчо, як анёл,
Іграе на скрыпачцы.
Што́ мае грошы!?

* * *

"Надта разумны!" –
З вуснаў народа гучыць…
Дзіўныя людзі!

* * *

Белая Вежа.
Лепшае хоку тваё,
Маці-Радзіма!

* * *

Хата суседкі.
Ціхі гародчык. І мак,
Як пацалунак!

* * *

Скокі сасніўшы,

Маснічына рыпнула
Ў кінутай хаце.

* * *

Спевы заранкі.
Што так хвалюе мяне
Ў просценькіх нотках?

* * *

Будуць вясёлкі,
Як хмара цяжарная
Лівень народзіць.

* * *

Дрэўца квітнее.
Дзе яно сілы бярэ
Ў цэгле і вапне?

* * *

Слухаю тое,
Што некалі чуў Басё, –
Зязюлі ку-ку.

* * *

Вежа касцёла.
Бусел ладзьбуе гняздо.
Дзюба, як цэгла.

* * *

Крушня сівая.
Долу пялёсткі ляцяць.
Шыпшына цвіце.

* * *

Веліч адносна.
Вежу закрыла сабой
Дрэўца малое!

* * *

Травеньскай ноччу
Салоўка заходзіцца.
Горад не чуе!

* * *

Яблынька ў лесе.
Як паміж тлумных гасцей
Вэлюм вясельны.

* * *

Для рупных пчолаў
Найлепшы плот на свеце –
Не перашкода!

* * *

Чэрвень красуе.
Лётае ў полі дзяўчо,
Як матылёчак.

* * *
Зноў павесіў нос
Каля хаты журавель.
Смачная вада.

* * *
Соннае лета.
Сціх нават спеў жаўрука
Ў небе высокім.

* * *
Буялі ружы.
Садоўнік-час іх зрэзаў.
Чытаю Басё.

* * *
Летняя завадзь
Слухае спеў ручая…
Колькі стагоддзяў?

* * *
Крык чорнай жаўны…
У квітнеючым леце
Аж холад працяў!

* * *
Ростань у полі.
Крыж расхінуў над зямлёй
Крылы ахоўна.

* * *
Пажар? – Здалося.
Дзядкі махру курылі
На весьняй прызбе.

* * *
Цэглу час забраў.
Быццам соты, шчэрыцца
Кладка на мурах.

* * *
Вэрхал у небе.
Гоняць у лес каршуна
Ластаўкі з вёскі.

* * *
Кроплі расінак.
Цяжка ўздымаецца чмель.
Безліч ласункаў.

* * *
Квітнее дрэва
На старых мурах. Палац,
А можа, стайня?

* * *
Борць у гушчэчы.
Пчолы самотна гудуць…
Пушча глухая.

* * *

Світанак даспеў.
Раскрываю акенца –
Вітаецца бэз.

* * *

Цесля працуе.
Мо ўпершыню для сябе!
Дом? – Дамавіна.

* * *

Чытаю хоку
І цішком складаю верш –
Груваскі, доўгі.

* * *

Крыж металічны
Дрэвы ўвабралі ў сябе.
Хто пахаваны?

* * *

Зноў браканьеру.
Поўню ў затоцы лаўлю
З зорнай ікрою.

* * *

Жонка шчыруе.
Больш за галоўку дачкі
Кветкі півоняў!

* * *

Званіцы студня.
Рассохся звон, як цэбрык.
Ці тут нап’ешся?

* * *

Вожык ля сцежкі.
Мокрая пыска ў чабор
Пырхае смешна.

* * *

Кінуў ракушку,
Выйшаў ад спёкі з сябе
Смоўжык маленькі.

* * *

Летняя поўнач.
Сёрбае стомлены конь
Вадкае срэбра.

* * *

Спякотным летам
Мне б хоць вершам праз мяжу
Перагукнуцца!

* * *

Памяць Сапегаў.
А пад нагамі, як кроў,
Бітая цэгла!

* * *

Спіць млын старэнькі.
У ставочак Млечны Шлях
Прасыпаў зерне.

* * *

Сліва ўрадзіла.
Збіраю да вечара.
Трэба мне столькі?

* * *

Ціха гартае
Ветрык у сшытку лісты.
Можа, чытае?

* * *

Уздых пачуўся.
Вітражнае праменне
Арган кранула.

* * *

Бабка старая.
Мова пяе, як струмень
Летняю спёкай!

* * *

Хіліць галовы
Спелае жыта, як мы
Ў час набажэнства.

* * *

Спрачаліся мы,
Ці пакінуць дзядоўнік.
А зараз цвіце!

* * *

Лета марнее.
Зноў застывае асфальт.
Як ты, Няміга?

* * *

У Беларусі
Найлепшы час для хоку –
Сярэднявечча.

* * *

Адзіны ў жніўні
Сярпочак востры ў вёсцы –
Маладзіковы.

* * *

Бацька – нябожчык.
Болей жывым за сыноў
Ён выглядае!

* * *

Жорны знайшоў я
Ў крушні, парослай быллём.
Дзе тыя людзі?

* * *

У студні – поўня.
Цяплее брук гасцінца.
Прыціхла смага.

* * *

Усё ў мінулым,
Ды ўначы сасніў цябе –
Дрыготкім вершам.

* * *

Ранак туманны.
Ці дровы вільготныя
Ў печцы суседа?

* * *

Злятае вырай.
А могілак бусліных
Ніхто не бачыў.

* * *

Зоркі згараюць.
Зноў развітальны салют
Цёпламу лету.

* * *

Навошта слёзы?
Глянь – на вуліцы дажджы
Ідуць бясконца.

* * *

Сквапны ліставей
Сыпле з неахвотаю
Хараство на дол.

* * *

Восень, напэўна?
У павуцінні сівым
Скроні каханай.

* * *

Туманіцца лес.
Сустракаю дасвецце
На сцежцы грыбной.

* * *

Стрэшку капліцкі
Новай дахоўкай пакрыў
Клён-рэстаўратар.

* * *

Кастрычнік. Поўня.
Лісце па рацэ сплыве,
А я запомню.

* * *

Быццам дантысты
Выдралі стоды з зямлі…
Сківіцы ныюць!

* * *

На голым галлі
Восеньскі вечар прысеў.
Ворана кліча.

* * *

Цёпла і сумна.
Моўчкі чакае зіму
Бабіна лета.

* * *

Восень адходзіць.
Хто ўпершыню прашаптаў
Тую сцяжынку?

* * *

Кастрычнік згарэў,
І кастры аддымілі
На стылых палях.

* * *

Рэха заснула,
Нажартаваўшыся ўдзень
Над грыбнікамі.

* * *

Зоркі пры поўні
Таксама прыселі ўсе
Продкаў прыпомніць.

* * *

Цёпла на прызбе.
Быццам святая мана,
Бабіна лета.

* * *

Хутка марозы.
Восень слязінку расы
Стрэсла з вяргіні.

* * *

Пліты граніту.
Што? Каб ніколі не ўстаў
Продак з магілы?

* * *

Жабрацкі туман,
А на дрэвах лістоты
Запас залаты.

* * *

Цвінтар. У цемры
Не бачна занядбання.
Удзень – жуда тут!

* * *

На павуцінні
Вясёлкі трапяткія –
Як сны пра лета.

* * *

Колькі ні цягні –
Гірка, што на ходзіках,
Перацягне ў дол!

* * *

Кветкам на вушы
Локшыну вешае дождж.
Хутка завеі.

* * *

Ссохлае дрэва
Пад мёртвай буслянкаю,
Што ты сасніла?

* * *

Лістоты капцы.
Як могілкі, скверыкі.
Сум лістапада.

* * *

Шэрань на дрэвах.
Поўня блакітным святлом
Лашчыць Каложу.

* * *

У хаце чужой
Я запальваю печку.
Чужое цяпло?

* * *

Снежань іскрыцца.
Некалі мне сумаваць
Па лістападзе!

* * *

Як асцярожна
Конік ідзе цалiком.
Жыта пад снегам!

* * *

Скляпенне храма
Ў святле маладзіковым.
Анёлак мерзне.

* * *

Чарка ды скварка…
Колькі яшчэ пражыве
Гэткі народзец?

* * *

Шэрая кошка
Ціха, пяшчотна мурчыць.
Падае кніжка.

* * *

Пад абразамі
Цьмяны агеньчык гарыць.
Што ён асвеціць?

* * *
Ветах у акне.
Усё – пяском праз пальцы:
Меней, меней, ме…



РЭЧКА ЧАСУ

**Пытанні**

Як прамяні дзяцінства не згубіць,
Святла душы дзівосную ўласцівасць –
Чуллівасць сэрца і добразычлівасць
Даросласцю сваёй не загубіць,

Каб шчырыя адносіны любіць,
Не песціць у сваёй натуры хцівасць,
Нягледзячы на зайздрасць і зласлівасць,
Людзьмі не звацца, а напраўду – быць?

З гадамі ўсё мацней разлад расстайны.
Як не забыць маленства адрас тайны,
Не даць пазарастаць яму трысцём?

І зрэдку, бо заўсёды немагчыма,
Зноў захапіцца сонцам і жыццём –
Зірнуць на свет дзіцячымі вачыма!

2000

**Зорная прыстань**

Туляюся ў начной нудзе
Каля азёр празрыстых,
Дзе ні агеньчыка нідзе,
Святло – ад зор іскрыстых.
Ратуе безліччу надзей
Адвечны Млечны прысак,
Дзе жоран-месячык брыдзе
Паміж зярнятак-рысак.

І адбіваецца ў вадзе
Азёрна і празрыста…
Куды мой ветразь завядзе
Азораная прыстань?
Раптоўна знічка дзе-нідзе
Мільгне… Высока?.. Нізка?..
На свеце стане менш людзей,
Жыцця парвецца нізка.

А нехта мроіў кагадзе,
Загадваў лёс калісьці,
Ды ўсе падзеі ў чарадзе,
Напэўна, ад калыскі.
Няхай заўчасна не спадзе
Маленечкая пырска.
А ростань зорная гудзе,
Вядзе… Далёка?.. Блізка?..
Ліпень 2000

* * *
З маленства мы спагадлівыя ўсе,
Чысцюткія, нібы анёлы ў небе,
Гуляем па аблоках, як па глебе,
І разумеем свет ва ўсёй красе.

Але сталенне свой расклад нясе –
Псуюць нас думкі аб надзённым хлебе,
Пасадзе ці другой якой патрэбе, –
Вось так і “вырастаем” пакрысе,

Адказнасць ускладаючы і віны
На кепскі лёс, цяжкія пуцявіны…

Але не ўшчэнт святла агеньчык счах –
Душа раз-пораз расхінае крылы:
Мы лётаем, на жаль, часцей у снах,
Наяве – свет дарослы і застылы!

2000

* * *

У нашай вёсцы звычай быў стары –
Па-хатняму нас звалі Ганчарамі.
І я да праўды лезу гушчарамі:
Адкуль пайшла мянушка Ганчары?

Не дапамогуць добрыя сябры,
Дарэмныя размовы з радакамі –
Мінуўшчыны сваёй не знаюць самі.
Не адшукаць адказу, хоць памры!

Імгненні мільгацяць, гадзіны, дні…
Мне крыўдна, што губляем карані.
Мы – не багі – займаліся гаршкамі.

І, каб няўзнак не згінуць у віры,
Раблю выснову: самі мы з вусамі –
Жыву, каб не звяліся Ліхтары!

2000

**Дзяды**

Пажоўкла лісце. Восеньская слота.
Трывога ў сэрцы, быццам назаўжды.
На шыбах дождж. Маркота. Адзінота…
Але прыйшлі Змітроўскія Дзяды.

Дзяды прыйшлі. Хадзем і мы з табою
На могілкі, дзе продкі нашы спяць,
Каб светлаю, празрыстаю журбою
Праз смерць жыццё ізноў ушанаваць.

У вечнасці Сусвету – так адвеку –
Прадвызначаны час кароткі нам;
А памяць – дапамога чалавеку,
Працяг жыцця і спадчына сынам.

Мы ўсе пакінем гэты свет калісьці.
Згарае час у восеньскім агні,
Але не трэба сумаваць пра лісце.
Галоўнае – жывыя карані!

Злятае век аджыўшая лістота,
Яна стварае коўдру для зямлі.
Бяроза, як разумная істота,
Стрымае кроплі-слёзы на галлі.

І мы не будзем доўга ля магілы –
Жыццё ідзе сваёю чарадой.

Хадзем дамоў: жывым патрэбны сілы
І свет залішне засланяць жальбой.

А дома да вячэры ўсё гатова.
Глынём кілішак і нальём Дзядам,
І памаўчым – паслухаем іх Слова.
Яны напэўна нешта скажуць нам…

Дрыжыць за шыбай месячык двурожны
У прадчуванні сцюж і халадоў…
Каб зладзіць лёс, павінен ведаць кожны,
Навошта і адкуль на свет прыйшоў!

1998

**Памяці Віталя Бараноўскага**

Як і раней, без запрашэння –
З усмешкамі, а не ў жальбе –
Адзначыць твой дзень нараджэння
Сябры прыходзяць да цябе.
А ты як быццам у вандроўцы –
На Беларусі ты не госць!..
Не, слова “быў” не трэба, хлопцы.
Лепш шваркнем чарку, быццам ёсць!

Пажыў ты, можа, і нямнога,
Ды не скаруся я журбе.
Заўжды здаровага, жывога,
Віталь, вітаю я цябе!
Бо тая прыказка, як зумер,
Гучыць у памяці сяброў.
Казаў ты жартам: “Умер-шмумер,
Абы заўсёды быў здароў!”

Ах, нашы спрэчкі-пасядзелкі
Пра тэніс ці пра іншы звіх,
І колькі б ні было гарэлкі –
Ты цверазейшы быў за ўсіх.
З табою мы дыскутавалі
Пра вершы, пра кіно, пра джаз,
Пра біяполе, ультрахвалі…
На ўсё, здаецца, быў адказ!

Не абібок, не валацуга, –
Каб мы далі табе спакой –
Ты б вывеў квадратуру круга
Сваёй магутнаю рукой.
Ішла гаворка пра прышэльцаў,
Пра Беларусь і пра Сусвет…
І не заўсёды пасядзельцаў
Разводзіў па дамах рассвет.

Тых незабыўных дзён вясёлых
Перада мной чарода ўся:
Рыбалка “знатная” на Солах –
За дзень злавілі карася…
Ці за бакштанкаю вандроўка,
Калі з паводкі на бальшак
Ты маю “Ніву” за вяроўку
Цягнуў, як рэпінскі бурлак.

Грыбныя ўдалыя паходы
Амаль да самае зімы.
Палон Зямлі і дух Свабоды
Там разам спасцігалі мы…
Грыбнымі сцежкамі кружляю
Я без цябе цяпер, на жаль,
Але надзеі не губляю:
Чакай!.. Сустрэнемся, Віталь!..

1999

**Пагоня**

Срэбны рыцар на белым кані
Па чырвонаму небу імчыцца.
У паветры лязо-бліскавіца,
Рэжуць цемру паходняў агні.

Ты чужынцаў адгэтуль гані,
Не давай ім нідзе прыпыніцца!
Злодзей будзе ліслíва маліцца –
Стануць ворагу чорнымі дні.

Той, хто здольны пакорна схіліцца,
Хто забудзе свае карані, –
Перамогі не зможа дабіцца.

Ты Радзіму маю барані,
Не дазволь нам ніколі скарыцца –
Час наспее збіраць камяні!

* * *

*Аляксею Марачкіну*

Вада адвеку на Зямлі
Стварае снег і лёд, і пару,
І нават кропелькі нектару,
Што пчолы цягнуць у вуллі.

Нам кроплі таленту далі
Зямля з Вадой – Сусвету пара,
І горшая на свеце кара –
Згубіць свой гонар у быллі.

За далягляды нас вялі
Дняпро, Бярэзіна і Шчара,
І ў нас адна з табою MARA –
Не адарвацца ад Зямлі.

Надзеі нашай караблі
Не спыніць навальніцы хмара.
Ёсць чарка, але ёсць і Чара,
Якую разам мы пілі!

* * *

Бяжы, вадзіца, да сівога млына,
Цурчы сабе, крынічная, наўпрост,
Сюды, дзе прытуліўся сіраціна –
Стары, рыпучы небарака-мост.

Тут быў ставок, а зараз – балаціна,
Бяссонна шэпчуць казкі трыснягі.
У хмызняку здзічэлая маліна.
Парэчкі атуляюць берагі…

Каб дацякла да мора ручаіна,
Крынічна ўспоіць шчодрая зямля,
Сустрэне далягладамі гасцінна,
Цябе рачулкай зробіць спакваля.

Няхай за пушчай іншая краіна –
Прытокаў чысціня і глыбіня,
Не забывай, што родная мясціна
Дала табе блакітнае імя!

**Сынам**

Прытуліся, сынок, да матулі –
Табе заўтра ў дарогу ад ранку, –
Пасядзі побач з ёю на ганку,
Аніхто, як яна, не прытуліць.
Пацалуй, сынка, матчыны рукі,
Што пяшчотна цябе гадавалі
І хвіліны спакою не знялі:
Сёння дзеткі, а заўтра і ўнукі.
Папрасі, каб скупеча-зязюля
Ёй гадочкі лічыла як трэба,
Бо заўсёды лагоднае неба,
Калі побач з табою матуля.
Памаўчы: непрыдатныя словы,
Іх тут будзе, напэўна, замала.
Лепш успомні, як маці спявала, –
Гукі вечнай і ласкавай мовы.
Можа, стрэне бяда за парогам,
Можа – лёс як усмешка дзіцяці,
Але толькі Айчына і Маці
Прыдадуць накірункі дарогам!
І, насуперак снам і трывогам –
Цяжка з сынам заўжды расставацца, –
Маці здолее заўтра стрымацца,
Толькі скажа адвечнае:
З Богам…
1999

**Вясёлыя разважанні на могілках**

Мы на могілках, зязюля,
Хопіць варажыць.
Тут усе даўно паснулі –
Хутка час бяжыць.

Што ў мінулае галёкаць,
Памяць церушыць?
Ціха спяць да локця локаць –
Не разварушыць.

Васкаваты спрэс барвінак
Цьмяна зіхаціць.
Па бясконцасці сцяжынак
Можна дзень хадзіць.

Шлях на вечны адпачынак
Просты – не зблудзіць.
Спяць мужчыны, спяць жанчыны…
Іх не абудзіць.

Тут заўжды і ў спёку дрогка,
Ды нашто тужыць?!
Кажаш, паміраць нялёгка,
А ці лёгка жыць?..

Гэты ўсё спазнаў, а гэты
Не паспеў зграшыць,

Але ўсе яны адпеты –
Не перарашыць.

Ну а гэты? Ён са свету
Здолеў жонку зжыць.
Год мінуў, як здзейсніў мэту, –
Побач з ёй ляжыць.

Мажны пан, няўклюда-лёкай –
Тут не нам судзіць –
Мо ў краіне той далёкай
Разам будуць жыць?

Нехта скончыў век у ложку,
Нехта – на крыжы.
Лепш не знаць сваю дарожку –
Божа, беражы!

Не знайсці брадоў у Леты,
Лёс не падкупіць.
Да кладоў – адзінай мэты –
Хутка век ляціць.

Думка, жвавая вавёрка,
У гушчар бяжыць:
Паміраць заўсёды горка,
Мо салодка жыць?

І пытанне, што кароста,
Цэлы час свярбіць,
І адказ шукаць не проста –
Быць мне ці не быць?

Ды “ку-ку”, як напамінак,
У галлі дрыжыць.
Не, яшчэ не мой прыпынак.
Выпадае – жыць!

Птушка, як наканавана –
Так таму і быць.
Паміраць не так складана,
Больш складана – жыць!

Чэрвень 2000

* * *

Не вер, што лепшае прайшло!
Хай сэрца стукаецца ў грудзі –
Святло было і вечна будзе.
Сланечнік, што ярчэе ў хлудзе,
І ў цемры здольны ўбачыць людзі…
Гарыць ля месяца гало!

* * *

Як нашы скроні – непрыкметна, ўпотай –
Сівее лета… Стомленай істотай
Прайшоў Пятрок і зажаўціў лісток;
І хутка восень ціхаю журботай
Насунецца пажухлаю лістотай,
І шэрань зробіць першы зімні крок…

* * *

Спрадвеку повязь моцнай пупавіны –
З часоў, калі Сусвет быў малады, –
Усё жывое цягне да вады:
Так клічуць у мінулае ўспаміны.

Ляціць жыццё, і толькі гадавіны
Машынай часу мераюць гады.
Як маятнік, вяртаючы туды,
Куды вяртаць, здаецца, не павінны.

Ніякавею я з такіх нагод:
Заблытваецца думак карагод,
Знясільваецца розум ад бяссоння.

Суцэльныя, як доля спарыша,
Збалелыя і сэрца, і душа
Каменьчыкамі валяцца ў прадонне…

2000

**У гадавіну смерці сябра**

Гаротна ў незваротнасці дрыжыць,
Квялее прывід ранішняй заранкі.
Няўклюдна ветрык гойдае фіранкі.
Я абудзіўся, толькі думка спіць…
Няўтульныя маёй самоты ранкі.

Канючыць каня – піць ёй трэба, піць.
Ды, акрамя адной, пустыя шклянкі.
Ляжыць курган някроенай буханкі.
Не завітае сябра – сябра спіць…
Не рыпнуць дзверы ад неспадзяванкі.
Ніколі жартам ён не будзе кпіць,
Што не ядуць і трэба зноў наліць
Для гутаркі, калі не для гулянкі…
Ды аднаму не выпадае піць,
І не заўжды пажыўныя сняданкі.

Але вада настойліва кіпіць –
Напэўна, трэба каву заварыць?..
Ратуе думка, што даўно ляжыць
Нагледжанае кола для буслянкі!..
Нап’юся кавы – неяк трэба жыць.

2000

* * *

Ледзь чутны спеў у цішыні
Скляпенняў велічных сабора.
Журба, надзея і пакора
Лунае ўзнёсла ў вышыні
Самотна, быццам плач пра ўчора,
Маленечкай спявачкі гора.

Мой Бог, яе не падмані:
Знайдзі прытулак, дай патолю,
Злагодзь і сціш усплёскі болю,
Яе анёла штурхані –
Паспаць яшчэ паспее ўволю –
Хай паклапоціцца пра долю.

Табе вякі – як людзям дні!
Свайму маленечкаму твору
Ты даў прасвіры і кагору –
На вынікі разок зірні,
На вочкі, што глядзяць угору
Ў чысцюткай веры без дакору.

Крылом надзеі ахіні
Душу і ў Часе, і ў Прасторы –
Яна важней за ўсе саборы,
Яе спагадай не міні!..

Ды дзверы раптам у прытворы
Усё пазбавілі апоры,

І свечак ніцыя агні,
Нібыта выканалі ролі –
Паклон адбілі ветру з волі,
І ноткі дзіўнай чысціні
Маленькай ластаўкі-сваволі
Заблыталіся ў фрэсках столі
І не знайшлі сабе патолі…
У змрочнай, гулкай цішыні –
Ані…

2000

**Белавежская песня**

Праз віхуры гадоў і стагоддзяў імжу –
Запаветам для нас край зубрыны, мядзьвежы.
Завітай да мяне – я табе пакажу
Камянецкую вежу на мяжы Белавежы.

Тут, як сведкі падзей і мінулых часоў,
У сівых курганах
Дрэмлюць продкавы душы –
Вартавыя зямлі і бясконцых лясоў –
Векавечных абшараў Белавежскае пушчы.

Ты надзей не губляй, мой зажураны край,
Аблачынкі ўгары – неба чуйныя вушы.
Мы пачуем, а ты на жалейцы зайграй
Тую песню святую Белавежскае пушчы.

Зразумеем тваю векавую журбу:
Цяжка ўзімку табе – у самоце, без птушак –
Знесці люты мароз, халадэчу-пургу.
Мы табе спачуваем, Белавежская пушча.

Вызваляйся хутчэй ад зімовых акоў
І крынічна ільдзінкі апошнія струшчы,
Бо знішчэнне снягоў – адпушчэнне грахоў
І адхланне не толькі Белавежскае пушчы.

На бярэзінах скрозь – галавешкі гракоў,

І пралескаў блакіт паглядае хітрушча.
Дачакалася зноў сваіх верных буслоў,
Развясняецца ў лета Белавежская пушча.

Не шкадуй васількоў для купальскіх вянкоў,
Не хавай таямніц, запаветная гушча.
Узрасці, узгадуй, як ад веку вякоў,
Нашу папараць-кветку, Белавежская пушча.

І спякотнай парой у крынічным гаі,
Дзе вірліва з зямлі б'е струменчык гаюча,
Жыватворнай вадой ты мой боль загаі,
Белавежская пушча, Белавежская пушча.

Прытаміўся хадзіць басанож па зямлі,
Каб не збіцца з дарог –
Адпачыць трошкі мушу.
Даматканым радном для мяне пасцялі
Верасовую пустку, Белавежская пушча.

Калыханку сваю хай мне птушкі спяюць.
Я прылягу спачыць –
Вочы ў стоме заплюшчу.
А калі назаўжды час прыспее заснуць,
Папрашу я прытулку Белавежскую пушчу.

Надвячорак прайшоў, сцежка блытае след.
Ноч па дрэвах паўзе пасмай чорнага плюшчу.
Ціхім шолахам зор прызнаецца Сусвет,
Што ўлюбёны бязмежна
Ў Белавежскую пушчу!..

Госцем будзеш у нас – паглядзі, не міні
І запомні, – калі ты, вядома, відушчы, –
Сілу нашых людзей, бо ідуць карані
На зямлі шматпакутнай з Белавежскае
пушчы.

Адмыслова табе я адкрыю сакрэт:
Міф пра спіны кітоў не прымаю рашуча.
На магутных зубрах наш трымаецца свет,
А зуброў нам гадуе Белавежская пушча.

Пэўна, род наш пайшоў ад пароды зуброў,
Мо таму і народ атрымаўся жывучы.
А трываласць людзей – ад вячыстых дубоў,
Стойкіх волатаў нашай Белавежскае пушчы.

Аніколі яны і з калень не пілі,
І з уладнай рукі не падлізвалі тлушчу.
На свабоднай зямлі самавіта жылі,
Баранілі святое – Белавежскую пушчу.

Памяркоўнасць цябе
Хай не ўводзіць у зман –
Не змяняем сваё і на райскія кушчы.
Ранак новага дня атуляе туман,
За туманам –

Магутнасць Белавежскае пушчы.

Сустракаем гасцей мы, як шчырых сяброў,
А калі наляціць к нам сусед завідушчы,
Дасць прытулак заўжды для сваіх ваяроў
Белавежская пушча, Белавежская пушча.

Ля яе алтароў ачышчаю душу.
Ледзь прыкметнымі сцежкамі
Ў самую гушчу,
Да асілкаў-дубоў, на святую імшу
Спавядальна спяшаю ў Белавежскую пушчу.

Тут мой дом і мой храм, і скажу я сынам, –
У краіну сваю закаханы бязмежна, –
Каб на долю і лёс не пакрыўдзіцца нам,
Трэба жыць незалежна,
Як жыве Белавежа!

**Засцярога**

Даверлівыя вочы Бога
На ўласны свет глядзяць з нябёс,
Дзе сын яго калісьці ўзрос –
Пайшоў з бацькоўскага парога;

Дзе засталося так нямнога
Вячыстых цудаў і дзівос,
І дзе ў нудзе журботных рос
Ляжыць маўклівая аблога;

Дзе не да Храма йдзе дарога,
І боскі сад быллём парос;
І цэрквы, дзе дасюль Хрыстос
Не вырашае анічога…

Лянота, сквапнасць і знямога
Звялі жыццё наперакос.
Напэўна, не ў каня авёс –
Не адбылося дыялога.

Не спадзяваўся Ён такога,
Калі ў Сусвет жыццё прыўнёс.
Што за народ? Усё разнёс!
Няйначай, даў занадта многа!?

Але крыўдуе люд на Бога:
Хто напрасткі, а хто наўскос –

Замест таго, каб ладзіць лёс –
Падмогі клянчаць у старога…

У зрэнках Бога – засцярога:
Цяпер канец – ніякіх слёз.
Каб вас усіх Пярун разнёс!..
Няма для вас жытла другога!

2000



**Выбраныя святыя**

*Абраз XVIII стагоддзя*
*з мястэчка Шарашова*
*(Дзяржаўны мастацкі музей)*

Для шарашоўскіх мужычкоў –
Для Васіля, Рыгора, Янкі –
Кручок, сучасныя паўбанкі –
Нагода толькі для размоў.

Святая справа пасля банькі:
Паразмаўляюць – і дамоў
Да ўласных жонак і сыноў.
Не вабілі чужыя ганкі.

На покуці ля абразоў
Не ведалі такой гулянкі,
Каб ганьбіць апахмелкай ранкі.

Бо не было адвеку п'янкі
У Васіля, Рыгора, Янкі…
У беларускіх мужыкоў!

2001

**Каляды**

У багоў, напэўна, звады,
Бо з надвор'ем нелады:
Пашарэлі далягляды,
Ну якія тут Каляды? –
Снег у выглядзе вады!
Зноў самоцяцца бярозы:
Дзе сівыя маразы?
І народ пакуль цвярозы,
Хоць малюй на абразы!

Горад чорны, нібы ляды…
Раптам – енчаць тармазы,
Бо знянацку, як з засады, –
Бубен, скрыпачкі рулады,
Гукі спеўнае бузы…
Калядоўшчыкі ў Каляды –
Гэта болей, чым тузы!

І жартоўныя абразы,
І прыпеўкі, як тады.
Тармазілі нават МАЗы,
Дзед скакаў, як малады!
Людцы ўсе Калядам рады,
А гандлёвыя вазы
Шчодра сыпалі прынады:
Ананасы, авакады –
Для Мядзведзя і Казы!

**Восеньскія думкі**

Стамілася сонца ад працы бясконцай –
Няўхільна, паціху змяншае дзянькі…
І вось ужо восень зірнула ў аконца:
Не летняе неба, і лес не такі.

І птушкі на поўдзень у вырай імкнуцца.
Сваё аддалі і сцішэлі палі,
А хутка завеі цішком дакрануцца
Радном даматканым да чорнай раллі.

Дай, Божа, нам сілы дажыць да пралесак,
Убачыць, як сінія вочкі гараць.
Калі зашуміць, заквітнее ўзлесак –
Наспее патрэба зямельку ўзараць…

1997

* * *

Жыццё не вечна коўзаецца ў брудзе –
Змяняецца ад думак і падзей.
Працуюць для людзей заўсёды людзі,
І сэрца, калі шчыра б'ецца ў грудзі,
Дастукацца павінна да людзей!

* * *

Крыжы – у часе раздарожжа,
Святыя нашы карані –
Нясе Сафія ў вышыні,
Захоўвае ў мурах Каложа.
Усё сапраўднае –прыгожа.
Абавязкова пераможа.
Другой гаворкі быць не можа.
Ты толькі ростань не міні…
У святы і ў ліхія дні
Крыжы – парады раздарожжа!

**Шлях да Храма**

На фоне велічных нябёс –
Прыгожа белае на сінім.
Да Храма Спаса-Еўфрасінні
Мяне ізноў прыводзіць лёс.

Дарогай гэтай, пэўна, йшла
Калісьці нашая святая.
Да продкаў думка адлятае,
Да каранёў дабра і зла.

Насустрач з рызніцы – святар,
Да літургіі ён убраны
Ідзе, паважны і старанны,
А рыза свеціць, як ліхтар.

Як палымяная зара,
Акантам бел-чырвона-белым –
На сёння аж занадта смелым –
Ярчэе рыза святара.

Я папрасіў, каб ён памог
Мне ўрэшце высветліць пытанне:
Пра колеры і пра ўбранне…
Адказ – маленькі маналог:

"Ў тым спалучэнні – чыстата,

Пра чалавечы лёс тужлівасць
І разам – годнасць і цярплівасць,
І Багародзіцы цнатлівасць,
І кроў распятага Хрыста...”

Нібыта вечнасці адказ
Тым цемрашалам ашалелым –
Гарыць чырвонае на белым,
Як кроў,
Пралітая за нас.

Зіма.
Заснежаны цвінтар.
Ад Храма я дамоў вяртаўся.
Тым часам холад моцна браўся,
А ў сэрцы – быццам будаваўся
Уласны, велічны алтар.

Бездапаможны быў мароз –
Рабіна ў шэрані ірдзела,
Як сцяг!..
Чырвонае на белым –
На фоне велічных нябёс!

* * *

На ростані паміж бярозаў – крыж...
Драўляны слуп пад дашкам заімшэлым.
Душа, здаецца, ў вырай адляцела,
Увесь Сусвет спавіт туманам белым...
Здранцвелае, знявечанае цела.
А побач ты, разгублены, стаіш.

І ты з надзеяй кволаю глядзіш
На ручнікі, на збітыя калені...
Што трэба нам, каб абудзіць сумленне?
І блытаюцца думкі і сумненні.
Пакутлівае ад пакут збаўленне –
На ростанях, паміж бярозаў, крыж.

1998

**Рэчка часу**

Кожны час нам дае святароў
І сярод паспалітага люду
Вылучае для нас не аблуду –
Ваяроў, змагароў, песняроў.

Хай сыны будуць лепш за бацькоў.
Дзякуй Богу за плён і падмогу
Запаветную ўбачыць дарогу
Праз пакуты і цемру вякоў.

Яснавокасць Дзядоў-вестуноў
Непадлеглая тлену і смерці.
Памяць нашу не здужае сцерці
Марнаслоўе маны ілгуноў.

Колькі ў душы загналі цвікоў,
Але думкі да сёння не скуты
І ляцяць праз вякі і пакуты
Ланцужочкам узвышаных слоў.

Палымяная нізка радкоў
Узнікае як прывід – нібыта
Родны бераг усё ж не забыты
Ў летуценнях і снах маракоў.

Лёс паэтаў, як лёс дзівакоў.
Незайздросная доля паэта –
У пракрустава ложа санета
Не змяшчаецца веліч вякоў.

II

Кожны век дабаўляе крыжоў.
Крыж на могілках – памяць у сэрцы,
Каб заўчасна душой не памерці,
Не заблытацца ў хлудзе лаўжоў.

Неўзабаве ў палон вечных сноў
Нас праводзяць тугой і жальбою,
Але спадчына наша з табою –
Гэта сіла і годнасць сыноў.

Хай да продкаў звяртаюцца зноў,
Як у спёку да хлоду крыніцы –
Не павінна ніколі спыніцца
Векавечная сувязь радоў.

Колькі ў свеце ўрачыстых сцягоў!
Але толькі адзін – улюбёны,
Дзе па беламу пасам чырвоным
Нашых продкаў струменіцца кроў.

Цемра гнёту варожых падкоў –
Крыжакоў і татараў навала –
Неаднойчы краіну таптала…
Для мяне гэты сцяг – крыж акоў!

Ад спрадвечных прыроды дароў
Нам у спадчыну тут засталося
Так пражыць, каб жыццё не звялося,
Родны род і радзінная кроў.

III

Кожны год – развітанне буслоў.
Адлятаюць, як звыкла, на поўдзень
І журботаю сэрца мне поўняць,
Ціхай стомаю восеньскіх сноў.

Край азёр, чабаровых бароў
Караван пакідае буслiны.
Дзякуй, птушкі, за тыя хвіліны,
Не забудзьцеся родных двароў.

Не губляйце дарогу дамоў:
Да сялібаў, знясіленых працай,
Да раскіданых вежаў, палацаў,
Да гаркавых айчынных дымоў.

Ля прывабных чужых берагоў
Сэрца чуйнае стукае ў грудзі,
Але ведае – шчасця не будзе
Без радзімых сваіх мурагоў.

Цвёрда веру ў адданасць сяброў –
Не спакусіць выгодамі вырай.
І вясною, з надзеяю шчырай,
Я буслянкі ладзьбую ізноў.

Так жыву– ад буслоў да буслоў.
Спадзяюся – з душою ў хаўрусе.
Хто жыве на маёй Беларусі,
Той мяне зразумее без слоў.

IY

Кожны дзень ахінаюцца зноў
На заходзе чырвонай парфірай
І гучаць старажытнаю лірай
Таямніцы сівых курганоў.

Рэчка часу не мае брадоў,
У прадонне нясе задумёна
Спадзяванні, надзеі, імёны,
Сілуэты старых гарадоў.

Нас імгненні здзіўляюць ізноў,
Як яны адлятаюць у вырай,
А гадзіннік з зязюлькай і гірай
Вызначае нябыт вечароў.

З нас наўмысна ствараюць рабоў,
Тлумяць годнасць і нашы пачуцці.
Ці напраўду не ў стане пачуць мы

Грозны покліч сігнальных рагоў?

Як заўсёды, да нашых Дзядоў
Мы звяртаемся з гэтым пытаннем.
Нам адказам – быліны, паданні
Далятаюць з мінулых гадоў.

У карунках сівых маразоў –
Так у часе ад нас аддалёна,
Праз вякі праглядае здзіўлёна
Чалавечнасць старых абразоў.

V

Кожны раз не хапае "багоў",
І тады, паміж бруду і блуду,
Мы знаходзім дзялка ці няўклюду,
Ці варага з чужых берагоў.

Ды надзеяю цешуся зноў,
Што жыве раўнавага ў прыродзе,
І, да ўлады прыбіўшыся, злодзей
Паспытае ў свой час бізуноў.

Патаемная сіла грамоў
Адчуваецца ў бляску заранкі,
А няўмольныя косы-маланкі –
Жах прысуду для ўсіх цівуноў.

Намаганні чужынскіх вятроў
Зацярушыць нам слых не павінны.
Так зімой ледзянеюць галіны,
А вясной зелянеюць ізноў.

І пагоркі ў завеях лістоў,
А калі адгрымяць навальніцы,
Як сцяжкі, чырванеюць суніцы
На прыпёку з паўднёвых бакоў.

Веру ў шчырасць прыроды і слоў!
І ніколі чакаць не стамлюся
На блакітным нябесным абрусе
Даматканыя крылы буслоў.

1998

**“На Беларусі Бог жыве”**

“На Беларусі Бог жыве”,
Так кажа мой просты народ.
*Уладзімір Караткевіч*

Паціху час ад нас плыве,
Гартае восень лісце…
“На Беларусі Бог жыве”, –
Пісаў паэт калісьці.

Гудуць пытанні ў галаве:
Ці верыць нам паэту?
Ці сапраўды тут Бог жыве
Ад сатварэння свету?

Паэт на небе. Запытаць
Ён можа ў Бога прама,
А нам – гісторыю чытаць.
І Біблію таксама…

Крылом благаслаўляе край
Святая птушка – бусел…
Дык, можа, планаваўся рай
У нас на Беларусі?

Праектаў боскі быў маштаб
Ў будоўлі і аздобе:
Фундатар, дойлід і прараб –
Бог у адной асобе.

Быў здольны ўсё адзін зрабіць:
Не зломак, не калека.
Але памочніка стварыць
Задумаў – чалавека.

Сабраўшы гліну, бруд і пыл,
Бог, як галоўны творца,
Усё зрабіў на свой капыл.
Вось маху даў празорца!

Бо для працягу творчых спраў,
Каб не сышла руплівасць,
Ён творчасць чалавеку даў –
Галоўную ўласцівасць.

А ўсім народам запавет –
Ладкуйцеся як трэба.
Вось вам з іголачкі Сусвет:
Зямля, Вада і Неба.

Стварыў Прастору ён і Час –
Цяжкая ў Бога праца –
І так зрабіў, каб кожны з нас
Мог чалавекам звацца.

Дзяліў на ўсіх багацце Бог,
Каб не было спакусы.

Амаль усё, што даць ён мог,
Займелі беларусы.

Я не шкадую небу слоў
Падзякі за прытулак –
За край зуброў, баброў, буслоў,
Балот, азёр, рачулак…

Не назаву я край другі,
Збыліся Бога словы:
Як з аксаміту мурагі,
І пушчы, і дубровы.

Азёры з рыбай і бары,
Дзе хвоі аж да неба –
Рай боскі, што ні гавары,
Нічога больш не трэба.

Не ведаю, з якіх прычын,
Але на ўсёй планеце
Не знойдзеш больш такіх жанчын –
Найпрыгажэйшых ў свеце!

Утульны край, цнатлівы кут –
Жыві, ўздымай аблогу.
Не дзіўна, што калісьці тут
Жылося добра Богу.

Госць завітае – Бог у дом, –
У народзе так казалі,
І храм – уласны Богу дом –
Прыгожа будавалі.

Стаялі побач з даўніх пор:
Касцёл і сінагога,
Царква і пратэстанцкі збор –
На свеце ўсё ад Бога.

Так. Меў у нас прытулак Бог.
А калі ўспомніць вёску –
Крыжы на ростані дарог
Вялі ў жыццё па-боску.

Здараліся і ў нас грахі,
Але заўсёды прама
На Беларусі ўсе шляхі
Вялі людзей да храма.

Вяліся тут і мужыкі –
Не цельпукі, не зломкі…
Вось толькі лёс дурны такі:
Пры ўладзе – пустадомкі!

Адных цягнула ў маскалі,
А іншых – у палякі,
Як быццам на чужой зямлі
Раскіданы прысмакі.

То не такія ім крыжы,
То кепскія іконы.
Дайшлі ў змаганні да мяжы,
Забыўшы ўсе законы.

Далей у лес – дык болей дроў!
Хоць з краю наша хата:
Стагоддзямі лілася кроў –
За памяркоўнасць плата.

Збіў з панталыку нехта нас
Ці збочыла дарога,
Як той казаў, ды ў пэўны час
Амаль зракліся Бога.

З сабораў скідвалі званы,
Здзіралі нават бляху,
Але маўчалі перуны –
Зноў, пэўна, Бог даў маху?

Калі марксісцкі маналог
Сягнуў да крайняй рыскі –
Ў бамжы падаўся ціха Бог…
Што зробіш без прапіскі?!

“Дай, Божа, ў добры час сказаць”, –
Тады казалі продкі, –
“А у нядобры – памаўчаць”:
Наш век такі кароткі!

Таму, як лёкай ці звырод,
Ці, мо, жабрак – убога
Жыве рахманы наш народ.
Ці, можа, брак у Бога?

Стаміўся, пэўна, ад турбот:
Нялёгка быць прарабам,
Ствараць жыцця кругаварот
Славянам ды арабам.

Раней тварыць ён цуды мог,
Але апошнім часам
Амаль зусім знясілеў Бог
З нямоглымі сам-насам.

На жаль, задураны мазгі
Наўмысна нам з калыскі:
Маўляў, начальства ці багі
Даюць нам мяса ў міскі.

Куды падацца мужыку? –
Абкладваюць, як воўка:
Поп з партупеяй на баку,
А ў краме – паўлітроўка!

Не разумею, хоць памры,
Сучаснага пакрою.
Якія ж гэта святары,

Што свенцяць нават зброю!?

Здаецца, зараз у царкве,
Хоць там пяюць дыскантам,
Няўтульна неяк Бог жыве,
Як быццам кватарантам.

Навошта залацяць крыжы,
Ніхто не разумее.
Няўжо без золата пражыць
Ужо і Бог не ўмее?

Калі з маленечкай царквы
Дашчэнту здзерлі гонту,
Ну дзе ж тут будзе Бог жывы
Сярод еўрарамонту?!

Усё нагамі дагары:
Амаль што побач з ракай
Цяпер гандлююць святары
Гарэлкай і табакай!

Запомніла Хрыстову кроў
Ерусаліма брама
Таму, што хцівых гандляроў
Папёр Збавіцель з храма!

Улада ціснецца ў царкву.
Ды нешта тут нячыста!
Як праваслаўе ў галаву
Палезла атэістам?

Зусім другі партрэт вісіць
Ў начальніка з акантам.
Не зможа Бог ніяк пражыць
Тут нават кватарантам!

З прыроды робяць нацюрморт,
Ну як жа тут не спіцца?
Чым толькі не жартуе чорт,
А Богу добра спіцца!

І занядбаная ралля
Чакае марна зерня.
Надзея гіне спакваля,
Што Бог нам нешта верне.

Дурныя думкі ў галаве,
Даруй за ўсё, Ісусе!
Не ўцямлю, як жа Бог жыве
З пачварамі ў хаўрусе?!

Не трэба мне царкоўны спеў,
Не звабяць нават чэрці,
Калі, нарэшце, зразумеў:
Галоўны храм – у сэрцы!

Народнай прымаўкі гвaздок

Ярчэе, быццам срэбра.
У Даля ў слоўніку радок:
“Бог не ў бярвенні – ў рэбрах!”

Таму паэт і сэрца рве,
І піша ён, упарты:
“На Беларусі Бог жыве”, –
І гэта, брат, не жарты!

Не трэба Богу, далібог,
Ліслівыя паклоны, –
Ён бачыць сцежкі ўсіх дарог,
Свае ў яго законы.

Ва ўсе часы з нас кожны мог
На Бога спадзявацца.
Не кіне нас ніколі Бог,
Прынамсі, як litterally дарадца.

На прыказку: “Паможа Бог!”
Адказ заўжды гатовы:–
“Казаў жа Бог, каб ты памог!” –
Навошта тыя словы?

Няўмела Бога зноў малю,
Ад сораму згараю:
Дай, Божа, мне маю зямлю,
Тады не трэба раю!

Як кажуць, ўсе мы тут ў гасцях:
На свеце ўсё ад Бога,
Але заўжды свой ладзім шлях
З бацькоўскага парога.

Няхай жаданне перамог
Мацнее з кожным годам.
Свабоду волі даў нам Бог,
Як і другім народам.

І край, і Бог ад нас знямог –
Пара збіраць каменне.
Сінонім ёсць у слова "Бог" –
Уласнае сумленне!

Свабодай боскай даражыць
Заўсёды трэба, браце,
Бо нават Богу цяжка жыць
Ў чужой, няўтульнай хаце.
Бог нам пакінуў запавет,
Адказнасць даў за ролю:
Ствараць далей прывабны свет
Без лаянкі на долю.

Бог зноў да творчасці заве!
Бог верыць Чалавеку!
На Беларусі Бог жыве.
І хай жыве.
Давеку!

**ЗМЕСТ**



**Слова**

**Гісторыя з геаграфіяй**



**Шыльды і шыльдачкі**

**Прыходзь, каханне**



**Чужое свята**

**Тутэйшым словам**



**Рэчка часу**